## 15 сакавіка — Дзень Канстытуцыі

АД РЭДАКЦЫІ

# Асноўны Закон як супрацiў рэакцыі

Руцінныя справы пакідаюць грунтоўны сьлед. У сухіх радках, напісаных часам бяссоннаю ноччу, зьмяшчаецца прыхаваная сіла. Усе канстытуцыйныя акты, калі-небудзь прынятыя ў Беларусі, непасрэдна ўплывалі на разьвіцьцё палітычных, сацыяльных, культурных працэсаў нашага краю.

Статуты Вялікага Княства Літоўскага былі створаны самімі абставінамі: народы Княства ня мелі рымскае мінуўшчыны, і прынесенае сюды выдатна кадыфікаванае рымскае права дзейнічала ня ў поўным аб'ёме, а тутэйшыя



звычаёвыя нормы ўжо не маглі рэгуляваць усе праявы сацыяльна разгалінаванага жыцьця Княства. Статуты XVI ст. сталіся зьяваю агульнаэўрапейскае значнасьці, але яны былі адначасова платаю за барбарскую мінуўшчыну славянскіх і балцкіх плямёнаў, што сфармавалі народ Беларусі. Статуты былі сынкрэтычнымі дакумантамі, аб'ядноўваючы ў сябе тагачасныя грамадзянскі ды крымінальны кодэксы, яны вызначалі фундамэнтальныя прынцыпы дзейнасьці дзяржаўнае сыстэмы канстытуцыйнае манархіі Вялікага Княства. Таму Статуты — гэта Канстытуцыі старажытнай Беларусі. Яны ня выратавалі Вялікае Княства ад заняпаду, але заставаліся фактарам уплыву на ўнутрыпалітычную сытуацыю ў Беларусі нават за расейскай акупацыяй — пасьля падзелаў Рэчы Паспалітае дзейнасьць Статута 1588 г. не была спынена, таму што ўвесь унутраны лад жыцьця беларускага грамадзтва грунтаваўся на гэтым юрыдычным акце. Такія рэчы імгненна зьмяніць немагчыма. Статут заставаўся дзейснаю юрыдычнаю нормаю, сымбалем грамадзкіх свабодаў і дзяржаўнае незалежнасьці. Урэшце і ён патрапіў пад рэпрэсіі. Пасьля паўстаньня 1831 г. адною зь мераў этнічнай і прававой прафіляктыкі з боку акупацыйных уладаў стала адмена дзейнасьці нормаў Статуту — у 1831 г. у Віцебскай і Магілёўскай губэрнях, у 1840 г. — у Менскай, Гарадзенскай і Віленскай.

Калі дэпутаты ад Вялікага Княства 3 траўня 1791 г. прагаласавалі ў Варшаве за Канстытуцыю Рэчы Паспалітай, яны гэтым самым прагаласавалі за першую ў Эўропе й другую ў сьвеце (пасьля амэрыканскай) Канстытуцыю Новага часу. Гэтыя акты называліся ўжо ўласна Канстытуцыямі. Нягледзячы на залішне цэнтралісцкія прынцыпы, Канстытуцыя 3 траўня давала грамадзянам дзяржавы нечуваныя раней правы й гарантыі, умацоўвала дзяржаўнасьць. Вось чаму рэпрэсыўны мэханізм спрацаваў вельмі хутка — вынікам карных акцыяў стаўся другі падзел Рэчы Паспалітай. І тут канстытуцыйныя лёзунгі — лёзунгі супраціву рэакцыі.

Найноўшай гісторыі Беларусі якраз бракавала канстытуцыйных зьяў. БНР, пасьпеўшы атрымаць нейкае міжнароднае прызнаньне, але не пасьпеўшы прыняць Канстытуцыю, ня спраўдзілася. Устаўныя граматы БНР былі дэкляярацыямі пра намеры, але яны не ўвасобіліся ў юрыдычную плоць. Ад БНР засталіся некаторыя дакуманты, успаміны, дзёньнікі. БНР, не атрымаўшы Канстытуцыі, засталася амаль легендай.

Савецкая юрыдычная сыстэма нават не апэравала такім паняцьцем як Канстытуцыйнае права, прадметам прававога рэгуляваньня якога зьяўляюцца прынцыпы арганізацыі й парадак дзейнасьці ўстановаў дзяржаўнае ўлады, прававы стан грамадзян і іхнія ўзаемадачыненьні зь дзяржавай. Асноўная крыніца Канстытуцыйнага права — Канстытуцыя, нормы якой маюць найвышэйшую юрыдычную сілу ў адносінах да ўсіх іншых крыніцаў права: парляманцкіх законаў, актаў выканаўчых органаў дзяржаўнае ўлады, судовых прэцэдэнтаў ды звычаяў. Савецкая юрыдычная сыстэма ўсё зьмешвала ў Дзяржаўнае права, якое зьяўлялася сукупнасьцю нормаў, што юрыдычна замацоўвалі ролю КПСС як ядра палітычнае і эканамічнае сыстэмы грамадзтва. Роля Канстытуцыі ў такіх умовах — фікцыя.

15 сакавіка 1994 г. Беларусь атрымала Канстытуцыю. Гэты дакумант унутрана супярэчлівы. Апроч іншага, з Прэамбулы Канстытуцыі была выкінутая тэза пра спадкаемнасьць традыцыяў дзяржаўнасьці ад ВКЛ і БНР, што справакавала напады на беларускую дзяржаўнасьць. Але дзяржава набыла юрыдычны каркас. Двухсоттысячны наклад Канстытуцыі стаў бэстсэлерам беларускага кніжнага рынку. Што б ні здарылася ў бліжэйшыя пару гадоў, нам ёсьць да чаго апэляваць, на што спасылацца. Пры самым найгоршым сцэнары мы скажам: "Вось паглядзіце: яны парушылі Канстытуцыю, дзе сьцьвярджаюцца незалежнасьць і законнасьць"! Адэпты сёньняшняга рэжыму менавіта гэтаму пункту ня здольныя будуць запярэчыць, а легітымна зьмяніць Канстытуцыю яны ня змогуць.

У сучасным інфармацыйным грамадзтве кадыфікаваныя фундамэнтальныя нормы набываюць асаблівую значнасьць і аўтарытэт у сувязі з уцягваньнем у грамадзкі працэс усё большых масаў людзей зь іх разнастайнымі інтарэсамі. У беларускай гісторыі пісанае права заўжды мела большую гістарычную сілу, чым на гэта маглі разьлічваць стваральнікі канстытуцыйных актаў.

Мы застаемся з Канстытуцыяй.

Алег Дзярновіч

## "МЫ КІНУЛІ КЛІЧ І ПАДНЯЛІ СЬЦЯГ"

### Ствараюцца камітэты беларускіх грамадзянаў

***На пачатку сакавіка газэты паведамілі пра стварэньне Камітэту беларускіх грамадзянаў. Гэты факт для "Нашай Нівы" камэнтуе кардынатар ініцыятывы Віктар Івашкевіч:***



- Мы не стварылі Камітэт. Мы выступілі з ініцыятывай стварэньня камітэтаў беларускіх грамадзянаў па Беларусі і далі кантактны тэлефон. Мы маем намер не ўзначальваць гэты рух, а выступіць апэратарамі гэтай ініцыятывы, каб дапамагчы тым людзям, якія будуць званіць нам, зьвязацца паміж сабою. Збольшага мы толькі кінулі кліч і паднялі сьцяг.

Ідэя камітэтаў грамадзянаў вядомая ў сьвеце і ў былых савецкіх рэспубліках. У Беларусі ініцыятарам яе стаў наш навуковы цэнтар "Беларуская Пэрспэктыва". Сам гэты цэнтар стварыўся ва ўмовах стбільнасьці існаваньня незалежнай дзяржавы, і нашай задачай было напоўніць гэтую, на першы погляд, трывалую форму, "абалонку", прагрэсыўным дэмакратычным зьместам. Праз адукацыю кадраў. Але калі мы даведаліся пра тыя пагадненьні, якія заключыў прэзыдэнт Лукашэнка з прэзыдэнтам Ельцыным, у нас узьнікла трывога наконт таго, што сама гэтая "абалонка" можа зьнікнуць. І тады мы выйшлі з ініцыятывай стварэньня камітэтаў беларускіх грамадзянаў.

Наша арганізацыя, "Беларуская Пэрспэктыва", ад пачатку не партыйная ці надпартыйная і непасрэдна не палітычная. Мы ня ўдзельнічаем у выбарах. Таму менавіта наша арганізацыя павінна была выступіць з такой ініцыятывай. Бо ў такія камітэты могуць прыйсьці ўсе, хто за незалежную дзяржаву, няхай кожны зь іх бачыць зьмест гэтай дзяржавы па-свойму. Гэта могуць быць і камуністы, якія выступаюць супраць прыдушваньня беларускае мовы, і прадстаўнікі Грамадзянскае партыі, і БНФ, і проста людзі, якія ня хочуць уваходзіць ні ў якія палітычныя арганізацыі і наагул займацца палітыкай. Мы не зьбіраемся ствараць канкурэнцыю палітычным партыям, а дзейнічаем як агульнаграмадзянскі клюб або цэнтар, куды запрашаюцца людзі самых розных поглядаў, для якіх ёсьць пэўныя аксыёмы, што не патрабуюць доказаў: неабходна незалежная дзяржава, неабходна дэмакратыя, неабходна рынкавая эканоміка. Гэтага дастаткова.

Камітэты павінныя выканаць канкрэтную і, у пэўным сэнсе, кароткатэрміновую задачу - адстаяць існаваньне незалежнай Беларусі як суб'екта міжнароднага права. База для камітэтаў - Закон аб грамадзянстве. Людзі павінны аб'яднацца дзеля таго, каб іх грамадзянства не было зноў заменена нейкім расейскім ці эсэсэсэраўскім.

Чаму задача кароткатэрміновая? Таму што галоўнае пытаньне, на нашу думку, вырашыцца да канца гэтага году. Пасьля гэтага людзі могуць альбо зноў цалкам адыйсьці ад палітыкі, ці разыйсьціся хоць бы па супрацьлеглых партыях. Мэта - захаваньне "абалонкі" незалежнае Беларусі, а дыскусіі наконт таго, чым яна будзе напоўненая, будуць, натуральна, працягвацца.

У кожнай мясцовасьці мы спадзяемся на ўдзел мясцовых краязнаўцаў, паэтаў, фальклёрных гуртоў, якія чэрпаюць ідэі для свае творчасьці з гэтай зямлі. Іхны ўдзел павінен даць эмацыйны патрыятычны імпульс нашаму руху. Зь іншага боку, калі чалавек лічыць, што павінна быць незалежная Беларусь, але зь сёньняшнім гербам, зь сёньняшім сьцягам і з расейскаю мовай, толькі ня трэба далучацца да Расеі, - зь ім трэба супрацоўнічаць.

Камітэты павінны ўвабраць у сябе ўсіх ад бомжа да мільянэра, ад чыноўніка саўміну да майстра на заводзе. Адзінае, што іх тут аб'ядноўвае - яны ўсе хочуць застацца грамадзянамі Рэспублікі Беларусі. Кожны з сваімі і, можа, нават супрацьлеглымі меркаваньнямі. Іх трэба згуртаваць і скіраваць на дзеяньне ў імя абароны незалежнасьці. Канкрэтная сытуацыя - згаданая дэкляярацыя нейкай аб'яднанай дзяржавы, "единение", як прэзыдэнт Лукашэнка сказаў... Вось супраць гэтага "единения".

Практычная задача - у выпадку рэфэрэндуму наконт далучэньня да Расеі - зрабіць максымальна, каб вынікі гэтага рэфэрэндуму былі на карысьць незалежнае Беларусі. Накірункі дзеяньня - пашырэньне агітацыйных матэрыялаў (праз суседзяў, супрацоўнікаў, радню...) і газэтаў, якія выступаюць зь дзяржаўніцкіх пазыцыяў. З улікам таго, што падчас рэфэрэндуму будуць пераважаць дзяржаўныя сродкі інфармацыі - з агітацыяй за адваротнае, трэба будзе прабіць гэтую інфармацыйную блякаду, каб чым болей людзей дачуліся, што ёсьць іншае меркаваньне. Яшчэ адзін накірунак - ціск на дэпутатаў сёньняшняга ВС з тым, каб яны не ратыфікоўвалі пагадненьні, накіраваныя на ліквідацыю незалежнае Беларусі. У выпадку, калі насуперак рашэньню ВС прэзыдэнт захоча адміністратыўна такую ліквідацыю ажыцьцявіць, - выступіць абаронцамі гэтага ВС ад яго трывіяльнага разгону. Як вядома, сілавыя структуры - на баку прэзыдэнта, і Вярхоўны Савет у процістаяньні з прэзыдэнтам у справе незалежнасьці можа атрымаць толькі грамадзкую падтрымку.

Істотна ўжо тое, што нашы камітэты прадэманструюць міжнароднай супольнасьці і самой Маскве, што далёка ня ўсе беларусы гатовыя зноў пайсьці ў ярмо, на задворкі імпэрыі.

Можна, вядома, сказаць; а што мы можам? Можам, калі ня хочам пасьля шукаць сабе апраўданьні перад дзецьмі і перад уласным сумленьнем.

Усіх, каго хвалюе захаваньне беларускай дзяржаўнасьці і беларускага грамадзянства і хто хоча далучыцца да нашай ініцыятывы, мы запрашаем зьвяртацца да мяне ці да Мікульскай Дзіяны (яна загадчыца канцылярыі цэнтру "Беларуская Пэрспэктыва"). Можна таксама зьвяртацца ў Аргкамітэт сьвяткаваньня 25 Сакавіка на тэлефон: 33-50-12.

"НН"

"Наша Ніва"
незалежны тыднёвік
№2(40)
заснаваны ў 1906,
адноўлены ў 1991

НАША НІВА

| | |
|---|---|
| заснавальнік і выдавец | Павал Жук |
| рэдактар | Сяргей Дубавец |
| адказны сакратар | Алег Дзярновіч |
| мастацкі рэдактар | Сяргей Харэўскі |
| рэдактар дадатку "Інфарматар" | Андрэй Лапцёнак |
| макет | Віктар Корзун |
| мантаж | Лявон Раманчык |
| набор | Тацяна Чуйвід |
| карэктура | Сяргей Сматрычэнка |
| пры ўдзеле | Сяргея Шупы |
| прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі (тэл. 56-94-36) | Зьміцер Бартосік |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл/факс 36-76-75
Падпісны індэкс 63125

## 24 сакавіка а 12 гадзіне на пляцы Незалежнасьці

Наш карэспандэнт даведаўся, што ў Беларусі створаны Аргкамітэт сьвяткаваньня 78-е гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтая дата - 25 Сакавіка - традыцыйна лічыцца галоўным беларускім нацыянальным сьвятам. Аргкамітэт узначаліў Васіль Быкаў. Ініцыятыву падтрымалі народныя дэпутаты М.Грыб, Г.Карпенка, С.Багданкевіч, П.Знавец, А.Дабравольскі ды іншыя вядомыя ў краіне людзі.

Як паведаміў нашаму карэспандэнту сябра Аргкамітэту Вячаслаў Сіўчык, масавая дэманстрацыя і мітынг адбудуцца ў Менску 24-га сакавіка. Шэсьце пачнецца а 12-й гадзіне з пляцу Незалежнасьці і будзе рухацца да помніка Янку Купалу і далей, да помніка Максіму Багдановічу.

- Аргкамітэт заснаваны ў неспрыяльны для краіны час, - заўважае сп. В.Сіўчык, - калі незалежнасьць зноў апынулася пад пагрозаю.

- Колькі народу мяркуе сабраць Аргкамітэт на сьвята? - запытаў наш карэспандэнт.

- Думаю, што 24 сакавіка на пляц Незалежнасьці прыйдзе больш за дзесяць тысячаў чалавек. Тым самым людзі выкажуць свае нэгатыўныя адносіны да апошніх ініцыятываў А.Лукашэнкі ў Маскве. Гарвыканкам павінен дазволіць сьвята. Калі не, то ўлады чарговы раз парушаць закон. Хацелася б, аднак, адсьвяткаваць палюдзку, безь пікіровак з рэжымам, - выказвае пажаданьне В.Сіўчык. - Шэсьце, у тым ці іншым выглядзе, абавязкова пройдзе па праспэкце Францішка Скарыны.

## КОЙДАНАВА

Ганна Матусэвіч

# ЛІСТЫ ДА СЫНА

16.02. Я хадзіла ў чужую царкву. Спрабавала паставіць сьвечкі за нашых Максіма й Сяргея*. У чужой царкве хвалілі чужых нам Філарэта ды Аляксея. Чужыя людзі цікавалі за маімі неспрактыкаванымі рухамі. Мне зрабілася блага. Я стала на лыжы й прайшла па цаліку 12 км. Па маім сьледзе з упартасьцю мурашкі паўзла Вераніка. Максім дапамог мне разглядзець у гэтай малечы самаахвярнасьць будучай Маці. Дзіцяці захацелася завезьці бабцы прыхаваныя з Новага году цукеркі. У чыстым полі, на адзіноце, душа паступова ачышчалася ад задушлівага паветра чужога памяшканьня. Даруй, Максім, выбачай, Сяргей, чужая царква Вас не прымае... Мы перахаваем Вас у сваіх душах, як Максім - нашу Пагоню.



17.02. Хлопцы абстрэльваюць сьнежкамі нерухомага "Аленя" (помнік Леніну - мянушку даў Міколка). Мінакі сьцішваюць дурасьліўцаў: "Няма чаго рабіць вам!" Жэўжыкі хаваюцца за "Аленеву" сьпіну, пасьля ўзнаўляюць сваю гульню...

18.02. Каля сегодня открытого магазина "Мечта" мару пра заўтра адчыненую краму "Ява".

19.02. "Ноч - пры сьвятле, няня - пры сьмерці", - пачула я на досьвітку. Але страху не было. Хто гэта?

23.02. Хіба ж бяда, што нас здаюць Расеі? Алег Грузьдзіловіч у радыё "Свабода" двойчы віншуе Міколу Статкевіча з Днём савецкай арміі. І той не папярхнуўся!

24.02. Саветызаванае сьвята народных талентаў "Грай гармонік". "Палянэз Агінскага" гіне ў абагульненым статку прыдурлівых беларусаў.

25.02. Дзеці мараць пра лета. Успомнілі леташнюю шкоду. Міколка абуў дзедавы боты й насікаў туды. Баба хвоснула яго крапівой, дзед даў пстрычку, Віталік дзьмухнуў на ягоныя болькі, а цётка й зусім ужо адпусьціла яму віну паўбананам.

27.02. Прыйшоў ліст ад Яна Пятроўскага з Флярыды. Яму ўжо 92 гады і "працы па вушы". Між іншым, ён пытаецца, ці ня знойдзецца жанчыны сталага веку, якая б умела (ці хацела навучыцца) друкаваць на машынцы й памагчы яму ў працы. Пераезд ён бярэ на сябе. Жанчына, магчыма, застанецца ў Амэрыцы назаўсёды... Няня?

28.02.

*Жыды! "Хрыстапрадаўцы і прыблуды"!*
*О, слава вам, ўсебеларускія Жыды!*
*Я веру вам, хоць чорнай гразьзю ўсюды*
*Плюе вам цар і раб, стары і малады.*
*................*
*Цяпер за вамі слова ў буру гэту:*
*Пайсьці ці не з народам нашым да сьвятла?*
*Пара, Жыды, паны усёга сьвету,*
*Сплаціці доўг, які вам Беларусь дала!***

Каб жа Божачка даў ды нашыя беларусы сталі такімі, як гэтыя Жыды!

Накінутае на нас імя... Я перапрашаю Вас хоць сто разоў: не крыўдуйце на мяне, любыя, блізкія, пяшчотныя Людзі. Але ж у якасьці БЕЛАРУСАЎ Вы здаецёся мне адно манэкенамі ці фанатыкамі...

29.02. Да нас прыехалі "Купалаўцы"! "Умовы дыктуе жанчына". Цена билета 10.000 рублей. У паўпустой залі батарэя стрыжаных жаўнераў-пагранцоў ды кучка цікаўнай інтэлігенцыі. На сцэне заўсёдныя "дзякуй вас" зьмяняюцца "антрактом на 10 минут". Астатняе ўсё выдатна. Дзякуй Вам!

** Тут і далей - Максім Багдановіч і Сяргей Палуян.*
*** Зь верша Янкі Купалы.*

## ВІЛЬНЯ

Сяргей Шупа

# ШУПАЎ ДЗЁНЬНІК

22.02. Чацьвер. Вільня - нічыя. На працягу стагодзьдзяў, асабліва за апошняе, розныя этнасы, веры, культуры зьмяняліся тут так часта, што ніхто зь іх не пасьпяваў пусьціць у віленскую глебу глыбокія карані й замацаваць за сабою сваю дамінацыю. (Найбольш стабільным элемэнтам краявіду былі хіба што жыды, таму яны, напэўна, найбольш "віленскія" з тутэйшых этнікаў; аднак сёньня іх тут - адзінкі.) У выніку - Вільня ня мае свайго "фаварыта", яна да ўсіх абыякавая, ну, прыкладам, як беларускі народ у сваёй масе да рэлігіі - з прычыны шматлікасьці прапанаваных яму гісторыяй канфэсіяў. Вільня "не даецца" нават сёньняшнім шчасьлівым яе "обладателям" - яе тапаграфія не адгукаецца ў памяці пакаленьняў: паспрабуйце знайсьці літоўца, чые б дзяды былі віленчукамі. Вільня аджывае, квітнее толькі ў часы шматкультурнасьці, касмапалітычнасьці. А сёньня гэта - горад "без сваіх духаў: старыя зьніклі, новыя яшчэ не завяліся" (Чэслаў Мілаш).

23.02. Пятніца. У "Baltos lankos" М. адмыслова затрымаў мяне, каб распавесьці, што ў Літоўскай Тэлевізіі ўжо другую нядзелю запар была перадача пра культуру ВКЛ у беларуска-літоўскай пэрспэктыве. Двое гісторыкаў: адзін, нібы той адвакат д'ябла, займае беларускую пазыцыю, а другі бароніць літоўскую. М. кажа, што зь вялікім зьдзіўленьнем і цікавасьцю пабачыў беларускую готыку, замкі й г.д. Каб жа я ведаў загадзя!

Паслаць зь Вільні ў Менск тры старонкі тэксту факсам каштуе гэтулькі ж, як сесьці на аўтобус і завезьці туды гэтыя самыя тры старонкі (дзеля якасьці сувязі й патрэбы прапускаць кожную старонку па некалькі разоў). Дый часу траціцца не нашмат меней. Адзінае выйсьце - e-mail. Новае пакаленьне выбірае e-mail! Паўхвіліны і бясплатна.

Кэвін Костнэр з вусамі - адзін у адзін Лукашэнка. Цікава: калі Лукашэнку зголяць вусы, ці будзе ён адзін у адзін Кэвін Костнэр?

24.02. Субота. Зноў сьнег, сьнег і сьнег.

Дзень Незалежнасьці Эстоніі. Абавязковы разьвес сьцягоў (як і на Дзень Незалежнасьці Латвіі), і ніхто навокал ня ведае нагоду. Пакуль я даехаў да рынку й назад, чалавекі тры па дарозе спыталіся, што за сьвята. Звычайна я ня ведаю, а сёньня ведаў.

25.02. Нядзеля. Далоў вузкалобы нацыяналізм! Няхай жыве нацыяналізм шыракалобы!

Увечары ў радыё "Праскі акцэнт": Чаропка з Галенчанкам абмяркоўвалі праблему гістарычнага этноніму. Моцна шкада было Галенчанку, якому даводзілася пераконваць апанэнта ў тым, што Зямля не квадратная, што кракадзілы ня лётаюць і г.д. А таму хоць бы што. У выніку чаго прэстыж беларускай гістарычнай навукі ляжыць і ня можа ўстаць. А за мяжою з нас сьмяюцца... І мэта ў Чаропкі, здавалася б, добрая - давесьці, што мы не абыхто й ня ўчора з дрэва зьлезьлі. Але ж да гэтай мэты можна дайсьці й бяз гвалту, крыку й прафанацыі навукі! І бяз страшнага расейскага акцэнту, які моцна рэзаў вуха, асабліва на фоне прыстойнага Standard Belarusian Галенчанкі. Праўда, падсумоўваючы, Абл-ка ўсё прыгожа згладзіў і сказаў тое, што было ясна безь ніякіх спрэчак.

Праз гадзіну пасьля перадачы - грук-грук у дзверы: Абл-ка, толькі што з Прагі...

26.02. Панядзелак. Галоўная навіна з Прагі - Ганна Іванаўна ўсё ж нешта ў тамтэйшых архівах знайшла! І нават столькі, што не пасьпявае сама дагледзець. Няўжо ёсьць нейкі сьлед пратаколаў НС і Рады 1918 году? Бальшыня клетак мазаікі ўжо запоўненая, але не хапае самых галоўных кавалкаў.

Выпадкова, у фондзе Ўсходняй Камісіі, знайшліся расьпіскі Ластоўскага аб атрыманьні літоўскіх урадавых крэдытаў Ураду БНР у 1920-1922 гадох. Мэханізм выдзяленьня такі: міністар зам. спр. піша прэм'еру даслоўна: "Прашу даручыць каму трэба выдзяліць адкуль трэба колькі трэба (паводле дамовы) на бел. справы". Супэрсакрэтна.

У старой і нямоглай княгіні Магдалены Радзівіл (на пачатку 20-х жыла ў Коўне) адзінаю апораю быў стары й верны слуга-беларус. У 1922 годзе паліцыі стукае ў галаву выселіць яго зь Літвы. Ён застаецца праз заступніцтва міністра Сямашкі, які піша кранальны ліст прэм'еру.

27.02. Аўторак. Паведамляюць, што ўзровень вады ў Нёмане ў Коўне можа падняцца на 25 мэтраў. Рыхтуюць да эвакуацыі 100 000 чалавек. Сусед сказаў, што нешта падобнае было ў 1958 годзе - быў заліты вадою ўвесь Катэдральны пляц. Пачатак патопу плянуецца на сярэдзіну сакавіка.

Баскетбол у Літве - як карыда ў Гішпаніі. Гуляць, мабыць, умеюць усе, хто стаіць на нагах. Сёньня было вялікае баскетбольнае шоў, дзе кульмінацыяй была гульня найлепшых прафэсіяналаў з камандай All Stars Літоўскай Тэлевізіі. Каб зраўняць шанцы, профы гулялі ў баксёрскіх пальчатках (была яшчэ прапанова - у наручніках...). Было вельмі вясёла. Глядзіш такое і спрабуеш змадэляваць нешта падобнае ў бел. умовах. І нічога не выходзіць...

28.02-29.02. У літоўскім радыё і ТВ дамінуюць тры навіны: Расея ў Радзе Эўропы ("а якраз у гэты момант расейскія самалёты бамбілі... забітыя... зьнішчаныя..."), Лукашэнкава заява пра немінучае аб'яднаньне з Расеяй і выхад Беларусі да Калінінграду ў абыход Літвы. Усё гэта стварае тут нейкую змрочную атмасфэру (плюс чаканьне патопу...). Лукашэнка, відавочна, сьпяшаецца, мабыць хоча, каб "узьяднаньне" трапіла на 25 сакавіка. Цікава, што пра гэта ўсё думае расейскі народ - няўжо з усёй шчырасьцю рыхтуецца прыняць нас у братнія абдоймы? Неяк у радыё выступала Г.Старавойтава, колішняя вялікая дэмакратка, сказала: "конечно, нам бы сейчас было очень удобно объединиться, чтобы отложить выборы и консолидировать вокруг Ельцина дем. силы" або нешта ў гэтым родзе. Ну, каторы там яшчэ зь іх дэмакрат?

Ластоўскі ў 1920 годзе пісаў: "Беларускі народ ніколі ня прыме чужы ягонай сялянскай натуры камунізм і да апошняй кроплі крыві будзе са зброяй у руках змагацца з маскоўскім цэнтралізмам, за незалежнасьць і непадзельнасьць сваёй Бацькаўшчыны". Як у ваду глядзеў...



1.03. Пятніца. Прыйшлі кніжкі ад Мэвы* - ладная порцыя добрай паэзіі. Разгортваю амаль наўсьлеп зборнік з самай зялёнай вокладкай (O'Clock, by Fanny Howe) і чытаю:

На бальшыні кантынэнту сёньня няўстойлівае надвор'е.

Бурлівыя навальніцы ад Менску да Альжэру.

Залевы над Флямандзкімі палямі Зробяць непраезнымі дарогі, што бліжэй да мора. Так скончыцца дзень.

Менск у вершы амэрыканскае паэткі. Менск з Альжэрам задаюць эўрапейскія каардынаты. Менск яшчэ жывы.

2.03. Субота. Дубавец прывёз першы нумар менскай "НН", які я пазнаў зь першага погляду - месяцы тры таму я прысьніў яго ва ўсіх дэталях, з колерам, з параю карэктарскіх памылак у загалоўках на першай паласе. Сьмешная ракіроўка: газэта рабілася ў Вільні й друкавалася ў Менску, а цяпер робіцца ў Менску й друкуецца ў Вільні.

3.03. Нядзеля. Ёсьць сэнтэнцыі, якія, будучы выказаныя ў эпахальныя моманты, робяцца крылатымі, сымбалічнымі ў гісторыі пэўнага народу. Мы ведаем шмат прыкладаў - выказваньні францускіх каралёў, рымскіх папаў, Леніна, Хрушчова. Ведаем крылатыя словы матроса Жалезьняка, якія азначылі інфэрнальны паварот у расейскай гісторыі. А вось словы, сказаныя беларускім калегам матроса Жалезьняка, якія сымбалізавалі пачатак наступу чорных сілаў на Беларусь, якія кожны з нас мусіць запомніць як страшнае прароцтва. Толькі што ў беларускай сытуацыі ўся дзея выглядала не гераічнай трагедыяй, як у Петраградзе, а нейкім фарсам-вадэвілем.

Спачатку слова сьведкам дзеля стварэньня кантэксту. Ноч з 30 на 31 сьнежня 1917 году. Усебеларускі Зьезд пачынае прымаць пастановы аб палітычнай будучыні Беларусі. "Каля Прэзыдыюму вырасьлі дзьве шэрыя фігуры: нарком унутраных справаў Рэзаўскі й п'яны, у шапцы зь велізарным бліскучым брылём, незвычайна хамаваты выглядам, начальнік менскага бальшавіц-

кага гарнізону Крывашэін. - Кто вы? Ваш мандат, товарищ? - энэргічна пытаецца старшыня Зьезду др. Серада. - Я начальник гарнизона! - крыкнуў сярод агульнага гоману Крывашэін... - Прошу слова! - паўтарае ён... Старшыня звоніць. На залі крыху цішэй. - Я под видом мягких лайковых перчаток, под видом мягкой пуховой постели... - пляце нейкую бязглузьдзіцу Крывашэін" (Макар Краўцоў). "Неўспадзеўкі падыйшоў да Прэзыдыюму нейкі незнаёмы высокі чарнамазы з ускалмачанымі валасамі ў простым салдацкім шынэлі чалавек і просіць слова для прывітаньня Кангрэсу. Ён назваў сябе камэндантам места Менску, але дакумэнтаў не паказаў.

[...] Крывашэін узыйшоў на трыбуну й гаварыў доўга, але бяз сэнсу, бяз сувязі словаў у сказе, паўтараючыся й зайкаючыся. Як я ні стараўся злавіць сэнс ягонае прамовы, але толькі зразумеў, што ў яго няма часу ні спаць, ні есьці" (Язэп Гладкі). "... А чарнамазы начальнік іхны, узьлез наўперад і нешта п'янае там брузьдзіць. Відаць, што чалавек упіўшыся і не разумеець, куды залез" (Кузьма ў апавяданьні Максіма Гарэцкага "Усебеларускі Зьезд 1917-га году").

Вось, нарэшце, сакрамэнтальная фраза Крывашэіна, якою быў сарваны Першы Ўсебеларускі Кангрэс 1917 году і затрыманы паступовы рух беларускае гісторыі:

"Я под видом мягких лайковых перчаток, под видом мягкой пуховой постели... я беру очередь... теперь я приглашаю провокатора, который сказал бы, что мы продаем кого и когда. Мы, великоруссы (сам Кривошеин типичный южанин. - заўвага невядомага камэнтатара) - никогда Вас не забывали. Я три часа сплю (голос из публики: "остальное время - пью") и забочусь о Вас... Я никем не задарен. Мы здесь следим, как уши и глаза, следим за Вами. Внесите светлое и милое... Еще раз говорю: да здравствует национальные полки белоруссии, не те полки, как Вы говорили... я готов погибнуть, но если Вы скажете, что я изменник, то я готов пострадать. Вам предлагают Раду, которая поведет Вас к пуховой постели, в цепи на десять-пятнадцать лет. А теперь да здравствуют пролетарские полки. А теперь я распускаю Ваши собрания".

"І птушкі загарэліся, і рыбы загарэліся, і неба загарэлася..."***

4.03. Панядзелак. Нечаканы паварот сюжэту: у наступны панядзелак я мушу быць у Празе. Прагу абмінуць абсалютна немагчыма: там сыходзяцца дарогі герояў абодвух маіх "раманаў" - Скарыны й дзеячоў БНР. Для першага Прага была зорным месцам, ратункам ад ідыятызму бацькаўшчыны, для якой ён аж занадта рана нарадзіўся. Ці ня ён першы ў сьведамай беларускай гісторыі адчуў, што любіць Беларусь можна толькі здалёк. І, пабедаваўшы ў дзікунскай сталіцы ВКЛ, зьехаў дажываць свой век у Залаты Горад. А ўжо ў 1920-х Прага для беларусаў была значна менш рамантычнай. За выняткам студэнтаў, якія атрымалі тут якасную асьвету ў "высокіх школах" і павярталіся на

Працяг на старонцы 8

Адам Міхнік

# Пасткі дэмакратыі пасьля камунізму

Крах камуністычнай сыстэмы зьмяніў сьвет. Ён зьмяніў прынцыпы міжнароднай стабілізацыі, зьмяніў палітычны кшталт Эўропы, але не стварыў новага ладу. Стары лад, лад "жалезнае заслоны", зьмяніўся хаосам. Мы назіраем крызыс ідэі Эўрапейскага Зьвязу і крызыс палітыкі эўрапейскай інтэграцыі. Адсутнасьць выразнага бачаньня будучыні сьведчыць пра крызыс ідэі; бездапаможнасьць у вайне на Балканах сьведчыць пра крызыс палітыкі.

Краіны "посткамуністычнай Эўропы" глядзяць на заходнія дэмакратычныя дзяржавы з чаканьнем і надзеяй, якая паступова расьце і ператвараецца ў расчараваньне й недавер. За 6 гадоў Захад не выпрацаваў ніякай стратэгіі пабудовы агульнай Эўропы. Не зьявілася нічога падобнага да "пляну Маршала" для посткамуністычнай Эўропы. Але ці магло быць інакш? Мяркую, не. Падзеньне камунізму было нечаканым. Пасьля яго ўсе аддаліся эйфарыі, а трэба было б заняцца рэфлексіяй.

Выбух свабоды паўсюдна абвясьцілі "канцом Гісторыі". А гэта быў не канец, а, як сказаў бы Кіплінг, пачатак цалкам іншай гісторыі.

II

Цалкам іншая гісторыя — гэта сёньняшні эўрапейскі хаос, гэта таксама роздум пра стан дэмакратыі ў посткамуністычную эпоху, а таму сфармулюем некалькі пытаньняў. Перш за ўсё, якія вынікі "аксамітных" — апроч румынскай — рэвалюцыяў? Рэвалюцыі адбываліся па-рознаму. У Варшаве і Будапэшце ім папярэднічалі перамовы за круглым сталом паміж уладай ды апазыцыяй. У Бэрліне праходзілі масавыя дэманстрацыі, якія выклікалі адстаўку камуністычных уладаў, у Маскве і Сафіі пераМены йшлі зьверху, іх ініцыявала рэфарматарскае крыло ў апараце ўлады. Зьмены былі фундамэнтальныя — і ў гэтым сэнсе рэвалюцыйныя,— але разам з тым бяскроўныя. Гэтыя рэвалюцыі абыйшліся бяз гвалту. Яны ня мелі свайго ўтапічнага ўзору дасканалага грамадзтва. Яны толькі імкнуліся скінуць ланцугі дыктатуры, імкнуліся дамагчыся нармальнага жыцьця. Але што такое нармальнае жыцьцё?

Для нас гэта перш за ўсё свабода. Свабода ад уціску дыктатуры. Сувэрэннасьць без савецкага дамінаваньня. Палітычная дэмакратыя і правы чалавека. Гістарычная саматоеснасьць і праўда пра нашу мінуўшчыну. Свабода веравызнаньня і рэлігійная талерантнасьць. Прававая дзяржава, скасаваньне цэнзуры і адкрытыя межы. Рынкавая гаспадарка і вяртаньне ў Эўропу. Але ці гэта й ёсьць нармальнае жыцьцё? А ці няма, часам, у такой нармальнасьці адваротнага боку?

Антыкамуністычныя рэвалюцыі ня мелі свайго сцэнару перайманьня ўлады, ня мелі й пляну перабудовы грамадзтва. Проста ўсё мелася палепшыцца: стаць як у краінах дэмакратычнага Захаду.

V

Эпоха посткамунізму — час будаваньня плюралізму на руінах аднапартыйнай дыктатуры. Адсюль — слабасьць партыйнай сыстэмы і сіла посткамуністычных партыяў. Адсюль патрэба ў харызматычных лідарах, якія ўвасабляюць агульныя мары пра свабоду і справядлівасьць.

Харызматычны кіраўнік спачатку мае амаль звышнатуральную сілу: Валэнса, Ельцын, Гавэл, Мэч'яр. Ён прыходзіць да ўлады, дзякуючы мінуламу — гэта ён зьдзейсьніў цуд, гэта ён скінуў дыктатуру і прынёс свабоду. Аднак ва ўмовах дэмакратычных працэдураў харызма блякне. Цуда не здараецца, а кіраўнік антыкамуністычнага руху ператвараецца ў звычайнага чалавека з звычайнымі людзкімі заганамі. Дэмакратычным грамадзтвам нельга кіраваць гэтаксама, як масавым рухам супраць дыктатуры. І вось учарашні харызматычны лідар становіцца карыкатурай на самога сябе. У Маскве кажуць, што Ельцын падобны на Емяльяна Пугачова, які пасьля ўдалага сялянскага паўстаньня засеў у крамлёўскім кабінэце. У Варшаве кажуць, што Валэнса ў прэзыдэнцкіх пакоях — гэта Робін Гуд на Даўнінг-стрыт.

Харызматычнаму лідару ў прэзыдэнцкім крэсьле наканаваны сталы канфлікт з урадам і парлямантам. Напружанасьць паміж галінамі ўлады — неад'емная рыса першае фазы посткамуністычнае дэмакратыі. Свабода ж посткамуністычнага пэрыяду яшчэ ня тоесная з дэмакратыяй. Дэмакратыя — гэта свабода, падпарадкаваная законам прававой дзяржавы. Посткамуністычная свабода ўлучае шмат чаго з ахлакратыі, то бок панаваньня натоўпу, таму часта прыносіць расчараваньне і стомленасьць, асацыюецца зь бязладзьдзем, блытанінай, балбатнёй і карупцыяй. Выбух свабоды спачатку прыносіць вялікую хвалю антыкамуністычнамартыралягічнае літаратуры, але потым, калі грамадзкасьць ужо наталіцца ведамі пра злачынствы Сталіна, пра пакт Рыбэнтропа-Молатава, пра катынскае забойства й Гулаг, гэтая хваля саступае месца хвалі адкідаў заходняй культуры. Кнігарні перапоўненыя парнаграфіяй, жахамі, дэтэктывамі. Грамадзкая сьвядомасьць пачынае разрывацца паміж антызаходняй ксэнафобіяй ды нічога ня вартым сьметнікам заходняе культуры.

VI

Крах камунізму зьмяніў эўрапейскую геапалітыку. Паўстала зусім новая палітычная мапа Эўропы. Баюся, што яе цяперашні выгляд яшчэ не канчатковы. Кожны паляк з майго пакаленьня вучыў у школе, што ПНР мае трох суседзяў: СССР, ГДР і Чэхаславаччыну. Сёньня ніводная з гэтых дзяржаваў не йснуе, як не йснуе і ПНР. Дэмакратычныя працэсы ў Расеі далі надзею самой Расеі і ўсяму сьвету, у тым ліку і Польшчы. Сёньня будучыня дэмакратыі ў Расеі пад пытаньнем. Расея шукае новай, постсавецкай саматоеснасьці, і гэтыя пошукі вядуцца ня толькі ў рэчышчы дэмакратычнае традыцыі. Вяртаецца й традыцыя імпэрскай аўтакратыі, вяртаюцца вялікарасейскі нацыяналізм ды панславянскія лёзунгі. Збліжэньне Беларусі з Масквой, яе рух у накірунку дыктатуры і рэсаветызацыі — небясьпечны сцэнар і для самой Расеі. Чачэнская вайна прадэманстравала крах ваеннае моцы, але таксама й бязьлітаснасьць і жорсткасьць расейскіх генэралаў. Расея сёньня — нестабільная і непрадказальная краіна. Перафразаваўшы Аляксандра Герцэна, вялікага расейскага дэмакрата, можна сказаць: мы жадаем посьпеху расейскай дэмакратыі, бо прагнем свабоднай і сувэрэннай Польшчы. Аднак глядзець на рэчаіснасьць трэба халадна і без ілюзіяў. Апрача Расеі і Беларусі, Польшча мяжуе і з Украінай, якая таксама шукае і не знаходзіць сваёй стабільнасьці і тоеснасьці. А польскае мысьленьне гняце комплекс расейска-нямецкай змовы на трупе Польшчы, комплекс пруска-расейскага альянсу, палітыкі Рапала і пакту Рыбэнтропа-Молатава. Вось чаму польска-нямецкія, польска-расейскія ды польска-ўкраінскія адносіны — ключ да стабільнасьці ў цэнтры Эўропы. Адносіны гэтыя цяпер нядрэнныя. Не сумняюся, што, калі Польшча стане сябрам Эўрапейскага Зьвязу ды Атлянтычнага Блёку, яны стануць яшчэ лепшымі. Толькі такая Польшча будзе ў поўнай меры прадказальная, бясьпечная, яна мае гарантаваць мір у гэтай частцы Эўропы.

VII

Характэрная рыса нашага часу — вяртаньне да ўлады посткамуністычных сілаў шляхам дэмакратычных выбараў. Гэта не азначае вяртаньня камунізму, але ж стрымвае тэмп рэформаў. Я асьцярожна называю гэты працэс "рэстаўрацыяй". Рэстаўрацыя не касуе ўсіх здабыткаў рэвалюцыі, хаця зьмяняе яе лёгіку і дынаміку. Пасьля этапу антыкамуністычных "аксамітных рэвалюцыяў" назіраецца фаза "аксамітных рэстаўрацыяў". Параза антыкамуністычных сілаў выклікана іх унутраным драбленьнем і самаразбурэньнем, а таксама станам грамадзтва, расчараваньнем, настальгіяй па эпосе бясьпекі — яна ж эпоха дыктатуры. Імкненьне да бясьпекі, як высьвятляецца, такое ж моцнае, як і прага свабоды.

Вяртаньне да ўлады посткамуністычных сілаў прывяло да вяртаньня "апаратнай" мэнтальнасьці, аднаўленьня ранейшых скарумпаваных структураў.

Посткамуністы абвінавачвалі антыкамуністычныя ўрады ў тым, што яны будуюць "рэспубліку дысыдэнтаў", то бок прыймаюць у апарат улады людзей з антыкамуністычнымі біяграфіямі. А самі сёньня — карыстаючыся іх мовай — будуюць "рэспубліку скарумпаваных таварышаў". Посткамуністы — прагматычныя цынікі, яны ўпарта стрымваюць дэцэнтралізацыю грамадзтва і пашырэньне паўнамоцтваў мясцовых уладаў, стрымваюць прыватызацыю, будуюць грамадзтва, у якім правіць бальчыноўнік, раздае канцэсіі, падатковыя льготы і прывілеі. Посткамуністы не шукаюць кампрамісаў у парляманце; валодаючы большынёй, жорстка навязваюць сваю волю.

Тым ня менш, гэта не рэкамунізацыя грамадзтва, а працяг працэсу ператварэньняў, распачатага ў 1989 годзе. "Аксамітная рэстаўрацыя"— спосаб адаптацыі людзей старога рэжыму да ўмоваў парляманцкай дэмакратыі і рынкавай гаспадаркі. У гэтым сэнсе яна — прыкмета не паразы, а посьпеху пераўтварэньняў.

*Пераклала Натальля Бабіна*

*Тэкст друкуецца з скарачэньнямі*



## З РЭДАКЦЫЙНАЕ ПОШТЫ

# А яны таксама...

Кажуць, норавы людзей не зьмяняюцца вякамі. У чалавеку заўсёды прысутнічаюць два пачаткі - мараль і інстынкт. І кожная эпоха адрозьніваецца ад іншай толькі тым, які з гэтых пачаткаў пераважае.

Уся гісторыя БССР была спробай усталяваньня іншых, нетрадыцыйных нормаў маралі - гэта значыць, спробаю разбурэньня маралі традыцыйнай. Далей я зьвярнуся па яскравы прыклад, які літаральна ўчора знайшоў у адным замежным выданьні. Аўтар не бяз горкай іроніі разважае так:

"Некалі добрым чалавекам лічыўся той, хто прытрымваўся правілаў рэлігіі, закону, традыцыі, а кепскім, зразумела, лічыўся той, хто гэтыя правілы парушаў, аплёўваў і зьневажаў. Цэлыя народы, якія збочвалі з пуцявіны прыстойнасьці, былі караныя лёсам. Сёньня ўсё інакш, усё наадварот. Сёньня добры той, хто робіць так, як бальшыня, як усе. Дзеля ілюстрацыі вазьму прыклад з недаацэненае гісторыі адносінаў грамадзтва да ананізму. Да 1948 г. у межах заходняе цывілізацыі ананіст быў страшным анамалам. Паводле правілаў навукі яго чакала вар'яцтва, дэбілізм, тупасьць. Паводле рэлігіі - пекла. Юрлівыя хлопцы штораніцы зь неспакоем углядаліся ў люстэрка. Ці пагляд мой яшчэ ясны, пыталіся хлопцы ў сябе, ці ўжо кранутыя хваробаю? Ажно прыйшоў 1948 год. Менавіта тады Альфрэд Кінсэй апублікаваў сваю славутую працу "Сэксуальныя паводзіны чалавека мужчынскае плоці", угрунтаваную на апытаньні вялізнае мужчынскае масы. І аказалася, што самі сябе гвалтуюць амаль усе. А што робяць усе - гэта не адхіленьне, а якраз наадварот - норма. З тых часоў мусілі нават тыя, хто не выносіць мастурбацыі, гвалтаваць сябе, каб выглядаць нармальнымі, а ня брыдкімі анамаламі. І вось ён, цэлы мэтад апраўданьня. Калі цябе злапаюць на падмане альбо на крадзяжы ці здрадзе, тут жа абвінаваць усіх вядомых, што яны таксама ашукваюць, крадуць і здраджваюць. Ажно людзі зразумеюць: так робяць усе... Што робяць усе - тое нармальна. І ты ўжо ня злодзей, а нармальны мужык ці добрая жанчына".

Тое, што робіцца ў Беларусі сёньня з падачы ўладаў - гэта ўжо адмаўленьне ад усіх маральных нормаў: і ад традыцыйных (прэзыдэнт адкрыта зьневажае мову, якая дала назву нам і нашай краіне), і ад савецкіх (якіх маладое пакаленьне ўжо ня ведае), і ад беларускіх дзяржаўных (зьмена сымболікі, гвалтаваньне Канстытуцыі). Усё! Не застаецца ані каліва нормаў прыстойнасьці! Стварыць на гэтым месцы нешта сваё яны ня здольныя, бо мудрасьць у іх цалкам саступае месца маторнасьці. У выніку - ніякай маралі. Адна мастурбацыя.

*Андрэй Маркоўскі, Менск*

рыжане, і гарадзенцы ў сваіх сустрэчах перамаглі і першым стаў "Нёман".

Што далей? А далей аказалася, што пэрспэктыва балтыйска-чарнаморскае лігі значна лепшая, чым здавалася напачатку. Па-першае, нягледзячы на фінансавыя праблемы, лёд зрушыўся - чэмпіянат адбыўся. Па-другое, лёс "меншых братоў" напаткаў і хакейных лідараў Беларусі і Украіны. Расея вырашыла праводзіць свой нацыянальны чэмпіянат, дзе ні "Цівалі", ні "Сокалу" месца ўжо ня будзе. Больш таго, навошта Расеі гадаваць сабе канкурэнтаў на эўрапейскіх і сусьветных спаборніцтвах. Такім чынам, напэўна, і "Цівалі" і "Сокалу" ня будзе куды падзецца, як толькі ў УЭХЛ, што мусіць прывесьці да абвастрэньня канкурэнцыі і зробіць чэмпіянат усходнеэўрапейцаў значна больш цікавым і прафэсійным.

Паглядзеўшы на вынікі першага турніру, латышы выразшылі заявіць у наступны чэмпіянат яшчэ адзін клюб. Трэба думаць, што Украіна таксама будзе адраджаць свой хакей, а прыстойныя каманды ня толькі з Кіева ў яе былі. Напэўна, другую спробу паўдзельнічаць будзе рабіць эстонскі "Крэнгольм". Вярнуліся да пытаньня ўдзелу ў турніры УЭХЛ палякі, якія жадаюць падвысіць якасьць свайго нацыянальнага хакею. Ёсьць інфармацыя пра магчымасьць удзелу асьвенцімскай "Уніі" і "Падгале" з Новага Тарча. Павелічэньне колькасьці ўдзельнікаў (з 8 да 14-15) павялічыць і працягласьць сэзону, і майстэрства, і досьвед камандаў УЭХЛ. Да таго ж, гэта мусіць хоць неяк зьбіць хвалю ўцёкаў хакеістаў краінаў-удзельніцаў УЭХЛ у клюбы Расеі, Заходняй Эўропы й Амэрыкі. Гэта што тычыцца камандаў майстроў, а хакейная школа, маючы добрыя традыцыі, у нас заўсёды выглядала ўпэўнена і пастаўляла кадры ва ўсе часы, прынамсі, у Беларусь, Украіну і Латвію. Гэта значыць, пэрспэктыва УЭХЛ павінна адбіцца і на ўзроўні зборных камандаў краінаў-удзельніцаў.

І апошняе. Варта паўтарыць, што новая балтыйска-чарнаморская хакейная ініцыятыва нарадзілася ў Беларусі.

*Алег Дашкевіч*

■ ПРЭМ'ЕРЫ

## ПРАЦЯГ "ВАЙНЫ І МІРУ"

У лютым у Маскве зьявіўся працяг "Вайны і міру" -двухтомны, 970-старонкавы раман "Пётр і Наташа". На жаль, не Талстога, але пісьменьніка, які схаваўся пад псэўдонімам Васілій Старой. Гэта далейшая гісторыя Пятра Бязухава, высланага ў Сібір пасьля паўстаньня дзекабрыстаў, і жонкі Пятра Наташы, якая едзе за ім.

*AP*

## ГЕРОЙ ОПЭРЫ – ГАРБАЧОЎ

У опэрным мастацтве ўваходзіць у моду сучасная палітыка. Тымчасам, як Джэральд Роззэнфэльд піша опэру пра Вілі Бранта пад назвай "Укленчаньне ў Варшаве" (яе прэм'ера плянуецца на 1997 год у Дортмундзе), у Дрэздэне 20 сьнежня мінулага году адбылася прэм'ера опэры "Гарбачоў". У камэрнай опэры Франца Гумэльса адлюстравальна падзеі пучу 1991 году. Пры пастаноўцы опэры рэжысэр Гарстэн Людвіг абапіраўся на факты савецкай сапраўднасьці і скарыстаў сучасныя сродкі масавай інфармацыі. Абстаноўка на сцэне - нязвыклая для аматараў опэрнага мастацтва.

*Focus*

## НА МАСТАКУ ШАПКА ГАРЫЦЬ

Француская паліцыя затрымала ў мінулую сераду мастака і куратара Музэю Сучаснага Мастацтва ў Марсэлі, у якім адкрылася выстава пад назвай "Усё, што я скраў". У экспазыцыі паміж іншага - пара ботаў, "пазычаная" аўтарам у гатэлі, а таксама начоўкі й вэнтылятар. Наведнікі пазналі ў экспанатах уласныя рэчы.

Аўтар выставы Эрвэ Парапанарыс заявіў, што зьмена ўласнасьці для яго - сродак сучаснай экспрэсіі.

*AP*

■ МУЗЫКА

## ТРАДЫЦЫЙНА БЕЛАРУСКАЯ ГАСЬЦІННАСЬЦЬ "КРАМЫ"

Менскія аматары року ведаюць такі музычны сэрыял, які цяпер завецца "Сябры ў гасьцёх у "Крамы". Напачатку назва была крыху іншая: "Сябры з Расеі ў гасьцёх у "Крамы". Тады, пасьля пасьпяховага выступу на фэстывалі "Пакаленьне-94" у Маскве "Крама" займела шмат знаёмстваў сярод расейскіх рок-музыкаў. Але зь цягам часу гэтая сьпярша рэгулярная акцыя пачала рабіцца эпізадычна. Акрамя таго, цяпер у госьці да "Крамы" прыяжджаюць сябры ня толькі з Расеі. Напрыклад, 4 сакавіка завітаў мазырскі гурт "Парадокс". Канцэрт адбыўся ў Альтэрнатыўным тэатры.

"Парадокс" грае ды сьпявае пап-рок на расейскай і ангельскай мовах. Гэта тэксты пра каханьне (шчасьлівае, нешчасьлівае, далёкае, нябёснае, прызямленае), ды запамінальныя, магчыма, крыху аднастайныя мэлёдыі. "Крамаўская" публіка слухала "Парадокс" без абразьлівых крыкаў ды сьвісту толькі з павагі да сваёй улюбёнае "Крамы", якая мусіла граць за гасьцямі. Тут трэба ўлічыць тое, што менская рок-публіка мае даволі спэцыфічныя густы, напрыклад, любіць блюз ды альтэрнатыўную музыку. На канцэрце "Крамы" гэтая публіка падзялілася на два лягеры: падлеткаў, якія ледзь ня зь першае песьні пачалі скакаць перад сцэнаю, і людзей адносна сталага веку з жонкамі й дзецьмі, якія сядзелі ў залі й за ўсім гэтым назіралі. "Крама" грала, пэўна, утрая болей за госьцяў. А пасьля канцэрту госьці, музыкі ды публіка, стомленыя, але задаволеныя разьехаліся па хатах, бо канцэрт адбываўся ў панядзелак, і наступнага дня аднаму трэба было йсьці на заняткі, другому - у свой офіс, а трэцяму - друкаваць нататкі пра гэтую падзею.

*М.Агурок*

P.S.

Дарэчы, для аматараў творчасьці "Крамы" паведамляю, што 15 сакавіка гэты гурт будзе граць канцэрт у Менску, у новым рок-клюбе "Каспэр". Наступнага дня, 16, у "Каспэры" пляную граць гурт "NRM" (Народная Рэспубліка Мроя), які перад гэтым выступіць у вядомых "Трох парсючках" (мэтро "Трактарны завод", кавярня "Час"). Гэты выступ мусіць адбыцца 14 сакавіка.

*М.А.*

## НАЗАД, У СУТАРЭНЬНІ?

Толькі два разы выйшла ў эфір на дзяржаўным "Радыё-2" сьпявачка Кася Камоцкая зь перадачай, у якой плянавала сустракацца з рознымі беларускімі рок-выканаўцамі. Але пасьпела яна сустрэцца адно з гуртамі "NRM" ды "Крама", пасьля чаго радыйнае кіраўніцтва вырашыла зьняць з эфіру гэтую перадачу. Прычым матывацыя была кшталту "гэта ня лепшыя ўзоры, на якіх мы мусім выхоўваць нашую моладзь". Беларускія рок-музыкі пачыналі сваю музычную дзейнасьць з сутарэньняў, з падпольля. Ёсьць падставы меркаваць, што пасьля трох гадоў адлігі ім давядзецца вяртацца да сваіх вытокаў.

## ДВА "АРСЭНАЛЫ" Ў АДНОЙ ЗАЛІ

6 сакавіка ў Менску, у канцэртнай залі "Менск" (больш вядомай як "палітпрос") адбыўся канцэрт калісьці вельмі вядомага расейскага джаз-ф'южн-фанкі ансамблю "Арсэнал". Ужо пасьля пачатку канцэрту арганізатары пачалі бясплатна прапускаць у залю публіку, каб запоўніць вольныя месцы. Але ўся гэтая публіка, і платная, і бясплатная, успрымала музыку аднойленага "Арсэналу" (перапынак у дзейнасьці ансамблю склаў прыкладна 5 гадоў) вельмі прыязна, хоць музыка гэтая ня самая лёгкая для ўспрыманьня.

Зьдзівіла велізарная колькасьць ахоўнікаў парадку ў залі, ля кожных дзьвярэй і на розных узроўнях "палітпросу". Да прыкладу, два амонаўцы прастаялі ўвесь канцэрт у левым ды правым баку сцэны. Невядома, каго яны ў гэтым выпадку ахоўвалі: ці то "Арсэнал" -ад прыязнае публікі, ці то публіку - ад традыцыйна варожага джазавага ўплыву? Пры гэтым паставы ў амонаўцаў былі як у фільме "Сямнаццаць імгненьняў вясны": ногі - на шырыні плячэй, рукі - за сьпінаю. Мяркую, што АМОН задоўга прадэманстраваць "Арсэналу", што й нашыя арсэналы -багатыя й разнастайныя.

*М.Агурок*

## АБВЕСТКА

Гурты "NRM" і "Новае неба" шукаюць адміністратара для супольнае арганізацыі канцэртаў, гастроляў ды іншае карыснае дзейнасьці ў галіне беларускае рок-музыкі. Кантактны тэлефон: 66-31-16

Наша Ніва 14 сакавіка 1996 №2(40)

*Працяг з старонкі 5*

бацькаўшчыну, для многіх Прага сталася месцам цяжкіх пакутаў, галечы й безвыходнасьці. Там яны й паміралі ў адзіноце й занядбаньні, паміралі ад хранічнае беднасьці й адчаю... І Залатая Прага, зусім не вінаватая, нічым не магла ім дапамагчы.

5.03-6.03. Дзякуючы дабрадзейным дасягненьням дэмакратыі, візы ўдалося атрымаць адразу на месцы, безь ніякіх запросінаў, дазволаў, парткомаў, прафкомаў. Прыходзіш, даеш свае паперы, здымкі, плоціш грошы - і празь дзесяць хвілін віза ў кішэні. Дзіўна толькі, што польская транзытная віза каштуе значна даражэй за чэскую поўную. (Праўда, кажуць, румынская транзытная яшчэ даражэйшая). З даездам таксама, здаецца, праблемаў ніякіх - адсюль чым хочаш да Варшавы, а з Варшавы чым хочаш да Прагі.

Выбар рэйсаў і транспарту даволі вялікі. Пасьля тэлефанічнай нарады з Максам* выбіраецца такі маршрут: Вільня - Беласток -... і далей па тэксьце.

7.03. Чацьвер. Беларуская канфэрэнцыя на Катэдры**** прызначаецца роўна на 25 сакавіка. Значыць, "урачыстая акадэмія". Цікава, што за памешканьне сёлета ўлады дадуць для сьвяточнае вечарыны бел. дыяспары? Пасьля традыцыйнае Белае Залі, якую давалі штогод, летась зазначылася дэградацыя - далі другарадную залю ў Доме Настаўніка. Куды загоняць сёлета? І ці ўвогуле нешта будзе? Або бел. амбасада не дазволіць?

** Мэва Марон, карэспандэнт "НН" у Ірляндыі.*

*** Фраза з п'есы клясыка тэатра абсурду Эжэна Ёнэско "Лысая сьпявачка".*

**** Перакладчык і дасьледчык Ян Максімюк, які жыве ў Беластоку.*

***** Катэдра Славістыкі Віленскага Ўнівэрсытэту.*

## ГОРАДНЯ

Сяргей Астраўцоў

# СЬЦЕРАЖЫСЯ ЦЯГНІКА

1.

Сталіца сустракае сакрамэнтальным надпісам на забітых цьвікамі дзьвярах аўтавакзальнай прыбіральні. ЗАСОР. Адна з самых адметных моўных вынаходак эпохі сацыялізму. Засор. Пераучот. За безьбілетны праезд - штраф. П'янству - бой! Ня стой пад стралой. Слава КПСС. Савецкая клясыка. Самая людзкая - бадай толькі адзіная беларуская фраза з маленства, якая мела афіцыйны статус у выглядзе шыльды на чыгуначным пераезьдзе. СЬЦЕРАЖЫСЯ ЦЯГНІКА. Беларусаў папярэджвалі, што іхны цягнік прапяе "бывайце здаровы" і зьнікне, а яны, разявіўшы раты, не пасьпеюць ускочыць. А можа, наадварот, ім казалі: ня лезьце, хлопцы, трэба перачакаць у лесе, бо гэты цягнік завязе вас не туды, куды варта, а ў камунізм, дзе ўсе мовы і нацыі зьліюцца ў адну расейскую. Карацей, поўны ЗАСОР.

Добрая бээсэсэраўская шыльда, якая па-бацькоўску папярэджвае. У ёй чуецца нават нейкая пяшчота. Нібы які дзед-барадзед дае табе добрую параду. Няма яе даўно, захавалася адно ў маленскіх успамінах. Застаўся адзін толькі ЗАСОР. Нават бяз клічніка, значыць, і без намёку на alarm. Проста абыякавая канстатацыя. Бяз колішняй вяршыні сэрвісу - перадрасоўкі кліентаў у іншыя грамадзкія прыбіральні сталіцы рынкавага сацыялізму. Усё проста. Аніякіх эмоцыяў. Засор у каналізацыі, засор у мазгах. Засор - норма жыцьці.

2.

Зноў прыяжджаў Пазьняк. З жонкай. Абмаляваў становішча так, што



хоць ты ўсёй заляй ідзі ды тапіся ў Нёмане на капыл якой-небудзь шалёнае сэкты. Але рака замерзла... Дый З.П. пад канец усіх крыху супакоіў, сказаўшы, што цяпер "нашыя магчымасьці вялікія і паляпшаюцца". Сумна пачаўшы, вясёла скончыў. Масавае самагубства не адбылося.

Сужэнства Пазьнякоў запрашалі на сцэну зусім па-вясельнаму: "А цяпер просім у рабочы прэзыдыюм Зянона Станіслававіча і яго каханенькую-родненькую". З.П. сьцішана загадаў жонцы, каб ня чулі астатнія, але яны пачулі: "Не хадзі туды, не хадзі!", і сам падняўся па прыступках на сцэну. З прэзыдыюму зноў паклікалі. Спадарыня Пазьняк замахала рукамі: не пайду!

Пазьняк традыцыйна казаў пра эгіпэцкую пустэльню, пра тое, што рабы, калі іх не перавыхаваць, зноў народзяць рабоў... Збоку ён выглядаў бадай пастарэлым. Прарок, які замест лаўравага атрымаў ад натоўпу цярновы вянок, які выклікае боль.

Марна ад іх чакаць, каб яны пазайздросьцілі тым чэхам ды па цагліне кожны купілі свой тэатар. Таму хай хоць усе фронтаўцы (якіх у горадзе 234) падпішуцца на "Пагоню" ды знаёмых падбухтораць. Каб наклад павялічыць. Такая парада Пазьняка. Падпішчыкаў ён параўнаў з тымі, хто склаў піраміду Хеопса. Гэта значыць зноў-такі - з рабамі?

3.

У кавярні Таранды Віця Шалкевіч прадстаўляе свой новы збор песень, запісаны толькі што ў Беластоку. Гаспадар частуе кавай па-ірляндзку (зноў гэтая ірляндшчына!). Вы стаіцё ля стойкі ды смакуеце скрыпку, бас, тэксты і голас. Коля, зрабі яшчэ кавы!

Нехта грукае ў дзьверы й паведамляе, што зараз прывядуць Пазьнякоў. Гаспадар здымае чаравікі й лезе вешаць сьцяг. Потым на лядоўні пачынае шыхавацца батарэя розных літровых чын-чынаў. Уваход партыйнае дэлегацыі сутыкаецца зь сьпевам "Добрай раніцы, жлобская нацыя!"

У Тарандавай кавярні, здаецца, гэтак утульна, што зусім ня хочацца ехаць на яшчэ адну партканфэрэнцыю ў засьнежаны й зьмерзлы горад на пагорках з разбураным замкам. Сужэнства застаецца й аглядае архітэктурныя помнікі, якія спіня Галіна бачыць упершыню. Потым я распавядаў пра гэта на радыё. У сталіцы некаторыя наступнага дня кпяць: "Прагнуўся, пра Раісу Максімаўну расказваў". Але З.П. ня Шура, перад якім адным мае сэнс прагінацца сёньня...

4.

З.П. усё паўтараў: ім не павярнуць кола гісторыі назад. Не дамо! Што ж гэта за кола такое? Адныя традыцыйна ліюць ваду на млын камунізму, іншыя - на млын імпэрыялізму. Так, здаецца. Кола, кола. Яно выклікае ў мяне думкі пра цягнік з пасажырамі, аховай і паштовым вагонам, у якім мяхі з грашыма. З клясычнага вэстэрна. На яго на працягу стужкі нападаюць усякія экспрапрыятары накшталт бальшавікоў. А далей - анэкдот пра цягнік у камунізм, які штораз спыняецца на нязьведанай дарозе. Сталін загадаў расстраляць машыніста, калі скончыліся рэйкі. Хрушчоў - разьбіраць іх ззаду й класьці наперадзе. Брэжнеў, здаецца, пажадаў, каб людзі зь елкамі ў руках беглі ўздоўж цягніка назад, ствараючы ілюзію руху наперад. Чарненка папрасіў, каб завешалі вокны й разгушквалі ягоны вагон. Мабыць, ён і ёсьць заснавальнікам моднага сёньня рынкавага сацыялізму. А вы кажаце, кола. Колы якраз у поўным безруху, глядзіш, увогуле адваляцца. Чарненка-Лукашэнка. Добра рыфмуецца, аднак.

5.

Апынуўся ў тым баку, куды калісьці езьдзіў на працу. Зазірнуў да былога калегі: пакуты творчасьці. У суседнім пакоі каляжанка. Нечакана пекна выглядае. На століку кветкі. Хіба сьвята нейкае? Сьвята, адказвае. Можа твой Дзень нараджэньня? У яе пакруглелі вочы. Ах, сапраўды, Дзень жа савецкай арміі! Што значыцца калектыў: дзяўчаты рыхтуюць пачастунак, мужчыны часткова паехалі дахаты, каб выглядаць побач зь імі ня менш сьвяточна. Амаль вымерлыя доўгія калідоры часова ажыўляе мітусьня, завіханьне, урыўкі фразаў. Вось і я некалі прымаў пакецік з дарункамі. Насоўка, крэм для галеньня, цытрусавы адэкалён. Паштоўка з друкаваным віншаваньнем ад рэдкалегіі, партбюро і прафкаму. Каляровы малюнак: дзябёлыя салдат у касцы, матрос, авіятар... Калектыў. Шура, вы чужы на гэтым празьніку жызьні. Як самотны паляўнічы. Заяжджаю ў краму, выбіраю зь пяці пляшак гішпанскага, баўгарскага, македонскага і яшчэ нейкага віна нямецкае. Мозальскае. Сьвятая Урсула. Зьбірае вінаград. Я давяраю менавіта нямецкай якасьці. Мозальскае з драбнюткімі бурбалкамі. На адвароце мапка мясьціны, дзе высьпявае гэты нямецкі вінаград. З назвай, якая выключае адзначэньне вайсковых сьвятаў. Цікава, ці той фон Готбэрг наўмысна падпісаў свой загад* менавіта 23 лютага, каб пакпіць у гэты дзень з савецкіх партызанаў? Каб у іх шклянкі з самагонам павыпадалі з рук, ці каб яны ўвогуле пакідалі зброю? Загадка беларуска-нямецкай гісторыі. Гэх, падабалася мне некалі песенька "Дружба - фройндшафт", асабліва прыпеў. Я быў тады пяці-шасьціклясьнікам. А цяпер мне падабаецца мозальскае. І бадэнскае таксама. Кёнігхаймэр. З выяваю кірхі... Але я застаюся патрыётам і не пакідаю станоўчае думкі пра пошукі сталічнага "Крышталя". Каб заставацца патрыётам, трэба ўперад ім стаць. Інакш прэкланеньне перэд усім інастранным робіцца рабалепіем, касмапалітызмам чыстай вады. Узяць, да прыкладу, гэтага самага песьняра саўгасных палеткаў і сацыялізму з рынкавым аблічам. У яго зусім няма імунітэту. Спачатку Бору таго лае, потым спрабуе падлабуніцца, нават абняцца для прэсы. Зь лёкайскай усьмешкай і з тэніснай ракеткай. Сёньня гаворыць, што любіць фюрэра, заўтра - што яго не зразумелі, і што фюрэр яму падабаецца выбарачна: чубчык - так, але вусы - не зусім. Шура, дык што мы ўсё ж сьвяткуем - Дзень расейскай арміі ці дзень Беларускай Краёвай Абароны? Калі сьвята расейскае, дык навошта вы тады аддалі Ёзасу наш герб? Нават калі б ён сапраўды яму належаў, дык гэта зусім ня страшна, сьвяткуем жа мы чужое вайсковае сьвята. І рэвалюцыйнае таксама, і яшчэ нейкае. На дзяржаўна-сувэрэнным узроўні. Ды плюс Дзень нейкіх там інтэрнацыяналістаў. Цырк на дроце. Тлумяць гэтаму дурному беларусу галаву. А куды серп з молатам ад яго схавалі? Чым цяпер працаваць? Вярніце прылады, Шура! І канчайце пілаваць гіры, ніякія яны не залатыя.

6.

На званіцы фарнага касьцёлу нарэшце ўмацавалі новы цыфэрблят старадаўняга вежавага гадзіньніка. З залатымі лічбамі, але пакуль бяз стрэлак і нават без адтуліны для іх. Цыфэрблят гэты нараджае ў душы цьмянае пачуцьцё.

7.

Прэзыдэнт РБ даслаў віншаваньне працаўнікам гарадзенскай "вадаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі". Зычыць ім "моцнага здароўя, вялікага шчасьця і далейшых працоўных посьпехаў". Ня ўсё тут цалкам уцямна. Хіба нейкая сувязь існуе з тым жа славэтным ЗАСОРАМ?..

** Маецца на ўвазе дазвол генэральнага камісара Беларусі фон Готбэрга на стварэньне Беларускай Краёвай Абароны, дадзены ў 1944 г.*

## НЬЮ-ЁРК

Лявон Юрэвіч

# Ціхая рэвалюцыя, тэрор, постмадэрн...

Што я надзвычай не люблю, дык гэта апынуцца замкнёным, сам-насам: ані кнігі, ані рэклямкі, каб затлуміцца чужым. Сам са сваімі думкамі. Я баюся. Як у дзяцінстве, калі пачынаў думаць пра сьмерць, але баяўся дадумаць - да нейкага лягічнага завяршэньня, хай сабе й няслушнага, нават інфантыльнага, абы не фатальнага. Ты спыняеш сябе - я не памру - і крочыш далей, але ў іншы бок.

Адсутнасьць друкаванага слова ў вандроўцы як праблема можа падацца сьмешнай. Але колькі ж можна глядзець у зацемненае вакно аўтобуса, няхай і на дзіўнае спалучэньне культуры Эўропы з маштабам Амэрыкі - на краявіды Канады. Хоць, урэшце, якая культура - тая самая краіна эмігрантаў. Мо хіба памяць тут мацнейшая, у францускім баку старой-маладой дзяржавы, дзе, кажуць, усё, як у Парыжы. А ляндшафты, краявіды, натурморты беларускія. І толькі надпісы ўздоўж бальшаку замежныя, што на сёньня значыць - і не ангельскія. Гаспадыня аўтобуса, Сусана, тымчасам распавядае пра, мабыць, самую кароткую бойку, што адбылася недзе ў 18 ст. паміж "французамі" й "ангельцамі", дзесяць хвілінаў, на працягу якіх абодва галоўныя генэралы былі забітыя, але ангельцы перамаглі. Дзесяць хвілінаў, і далейшая гісторыя пайшла іншым, ангельскім шляхам. Гісторыя, праўдападобна, толькі моўная, бо наўрад ці што іншае зьмянілася. Дзесяць хвілінаў, а потым два стагодзьдзі, калі, нарэшце, у 60-х "французы" абудзіліся. Яны збольшага не ляманталі, не страйкавалі, а вялі "ціхую" рэвалюцыю. Там здымуць шыльды з ангельскаю мовай і павесяць на сваёй. Або іх тут усё ж бальшыня - раптам перастаюць разу-



мець не па-свойму. Ну што ты зь імі зробіш? Будзеш вучыць мову. У дзьвюхмоўнай краіне ў францускім баку сёньня адно з ангельскаю ты працы ня знойдзеш. Вось як.

Ад стомы й лайдацтва пачынаю корпацца ў паперах, якія захапіў з сабою. Я так сьпяшаўся на аўтобус, што хапаў паперы з друкаркі, нават ня гледзячы, што ён там выдае. І, натуральна, на маё гэбрайскае шчасьце, выдрукаваў ня той файл.

Паперы, што, паблытаўшы, пакінуў, былі тэзамі дакладу. Сама тэма канфэрэнцыі фармулявалася нешта як "Постмадэрнізм, новыя літаратуры й мова". Тыдзень раней: у чытальнай залі нашае біб-

цей. Толькі цыганы-мужчыны могуць браць у жонкі нецыганак. Цыганкам любіцца зь нецыганамі забараняецца. Адсюль распаўсюджанасьць сюжэту пра трагічнае каханьне цыганкі і чужога, прышлага ў цыганскі род мужчыны.

Друйскія цыганы - не бязбожнікі. Не сказаць каб спраўна, але яны ўсё ж наведваюць касьцёл, у якім яшчэ вядуцца рэстаўрацыйныя работы. Што цікава, у храм цягне больш цыганоў-мужчын, у той час як сярод беларусаў назіраецца адваротная тэндэнцыя.

Як і ўвогуле цыганы, друйскія любяць "чаі ганяць". Нават калі яны п'юць гарэлку, на стале ўсё адно павінен стаяць посуд з прыгатаванай гарбатай.

Ну, і не былі б то цыганы, каб не было ў іх праблемаў з прапіскай. Гэта ўжо абавязкова. Як і са школаю, якую заканчваюць далёка ня ўсе дзеці з аселых цыганскіх сем'яў.

Апошнім часам сярод цыганскіх дзяўчатаў стала модным выходзіць замуж за прадстаўнікоў каўказскіх народаў. І гэта пры тым, што цыганы, прынамсі друйскія, на дух не пераносяць каўказцаў, асабліва чачэнцаў. Парушэньне традыцыі ўзаемадачыненьняў зь іншымі этнасамі выклікае ў цыганскім асяродку вялікія скандалы. Таму жанчыны, пайшоўшы не



Здымак Анатоля Клешчука

за сваіх, лічаць за лепшае не зьяўляцца ў радавыя гнёзды.

Хоць і памянялі друйскія цыганы кібіткі ды шатры продкаў на фундаментальныя местачковыя дамы, але гаспадаркі ніякой не вядуць - жывуць з усяго куплёнага. Іншая сям'я можа, напрыклад, купіць на рынку мяса даляраў на пяцьдзесят і разгаўляцца дні тры. Але каб сьвінчо якое завесьці дзеля балалэсу (сала) - гэтага ў іх няма. Нельга парушыць традыцыю.

## Фініш

Маладыя цыганы, вядома, не цураюцца местачковага жыцьця. Іх можна бачыць паўсюль, бо Друя - гэта іх табар, іхны шацёр. А ў сваім доме можна й грашыма сыпануць. Як, напрыклад, летась пад Новы год, калі цыганы кідалі ў паветра разьліковыя білецікі Белнацбанку, верачы, што ў наступным годзе грошай у іх будзе яшчэ больш. Яны кідалі, а мясцовыя "рускія" (беларусы), штурхаючы адзін аднаго, зьбіралі гэтыя грошы. І малады "арыстакрат" Хыма, ціхі цыганскі інтэлігент, магчыма, падумаў тады: "Эх, плебс!.."

Друйская рэспубліка Цыганія будзе жыць, гэта як піць даць. Бо ейныя грамадзяне гонар маюць не згінацца па драбязу, кінутую "на прыбытак" іншымі. Друйская Рэспубліка Цыганія будзе жыць нават тады, калі згіне з вачэй цыганская Рэспубліка Беларусь.

Славамір Адамовіч

## ВЫБАР ЗА ВАМІ




*БЕЛАРУСЬ: Энцыкляпэдычны даведнік / Галоўны рэдактар Б.Сачанка - Менск: Беларуская Энцыкляпэдыя, 1995.*

Стварэньне аднатомнага энцыкляпэдычнага даведніка пра цэлую краіну - гэта найперш справа адбору пэрсаналіяў, падзеяў, назваў артыкулаў. Даведнік "Беларусь" вызначаецца пошукам выверaных тэрмінаў. Можна назваць некалькі адметных рысаў тэрміналёгіі новага даведніка, прыводзячы мінімальную колькасьць прыкладаў, адначасова ўказваючы на розначытаньні, адыходы ад вызначанай канцэпцыі.

У геаграфічных тэрмінах назіраецца паступовы пераход да беларускіх формаў тапонімаў. Таму артыкул называецца "ЛЁЗНА", а не "ЛІОЗНА". Вядома, што ў канцы XVIII ст. расейскае чынавенства, апісваючы новыя землі імпэрыі, мэханічна з польскай на расейскую мову трансьлітаравала напісаньне беларускіх гарадоў і мястэчак. Так LIOZNO стала ЛИОЗНО, што падхапіла беларуская савецкая мова - ЛІОЗНА. Аналягічная зьява зь МЁРАМІ (МИОРЫ, MIORY), але тут праявілася непасьлядоўнасьць рэдактараў Энцыкляпэдыі - у даведнік гэты горад унесены як "МІЁРЫ". Як кампрамісны варыянт можна разглядаць назву артыкула "ІВАНАВА, Я н а в а".

У назвах палітычных і грамадзкіх фармацыяў рэдакцыя імкнулася адбіраць паміж афіцыйнымі назвамі найбольш дакладныя сутнасна. Так артыкул пра праваслаўную царкву ў Беларусі называецца "БЕЛАРУСКІ ЭКЗАРХАТ, Беларуская праваслаўная царква". Царква ў Беларусі знаходзіцца пад юрысдыкцыяй Масkoўскага патрыярхату, афіцыйная назва "Беларускі экзархат" падкрэсьлівае гэтую акалічнасьць. Разам з тым, сустракаецца неадпаведнасьць аманімічных тэрмінаў, што выносяцца ў загалоўкі. Пад загалоўкам "СЭЦЭСІЯ" разьмешчаны артыкул пра "групу, якая ўтварылася ў ЦК Кампартыі Зах. Беларусі". Адсылкі да "МАДЭРНу" няма ўвогуле, хоць сэцэсія вядомая найбольш як адзін з сынонімаў мадэрну, ці, прынамсі, адна зь яго вэрсіяў. Для беларускае гісторыі і гісторыі беларускае культуры мадэрн непараўнальна больш значная зьява, чым група ў ЦК КПЗБ.

Рэдакцыя Энцыкляпэдыі імкнулася спавядаць прынцып палітычнае карэктнасьці, якім кіруюцца цяпер заходнія мас-мэдыі. Гэта значыць, што любая зьява падаецца максымальна безацэначна й неэмацыйна, для назваў гэтых зьяваў выбіраюцца найбольш нэўтральныя тэрміны. Але палітычная карэктнасьць - гэта прынцып карэктнае падачы інфармацыі, ён робіць нэўтральнымі тэрміны, але не падмяняе сутнасьці. З энцыкляпэдычнага даведніка "Беларусь" з усяе рэпрэсыўнае дзейнасьці Фэлікса Дзяржынскага мы можам даведацца толькі тое, што ён зьяўляўся "адным з ініцыятараў стварэньня т.зв. папраўча-працоўных лягераў". Але менавіта прынцып палітычнае карэктнасьці вымагае неэмацыйна назваць масавыя рэпрэсіі масавымі рэпрэсіямі, а Фэлікса Дзяржынскага вызначыць як аднаго зь іх арганізатараў і галоўных выканаўцаў. Адзначана ж, што Ф.Дзяржынскі "неаднаразова быў арыштаваны царскімі ўладамі й засуджаны". Атрымваецца наступнае: артыкул пра Фэлікса Дзяржынскага замест палітычна карэктнага выйшаў тэндэнцыйным.

Увогуле, адбор пэрсаналіяў ды ацэнка іхнай палітычнай дзейнасьці - найбольш складаная й далікатная працэдура для энцыкляпэдычнага выданьня. Без дыскусіяў такія рэчы ня робяцца. Але ёсьць імёны, прысутнасьць ці адсутнасьць якіх вельмі заўважная. Энцыкляпэдыя "Беларусь" - першая беларуская энцыкляпэдыя, дзе няма Леніна. Гэтак сталася, падобна, у выніку рэдакцыйнага кампрамісу: услаўляць Леніна няма за што, але напісаць пра яго як пра пачынальніка бальшавіцкай дыктатуры яшчэ (ці ўжо) не адважыліся. Складанасьць праблемы ў тым, што тут жа паўстае цэлы шэраг імёнаў гістарычных асобаў, дзейнасьць якіх мела дачыненьне да дэмаграфічных катаклізмаў у Беларусі - Гітлер, Сталін... Пакуль што рэдакцыя "Беларускай Энцыкляпэдыі" ўхілілася ад разьвязваньня падставовых праблемаў у ацэнцы дзейнасьці гэтых асобаў. Больш зьмякчаны варыянт атрымаўся зь іншымі гістарычнымі пэрсаналіямі: у Энцыкляпэдыю патрапіў Міхаіл Кутузаў, але зь яе выпаў Аляксандар Сувораў.

Зважаючы на сёньняшнія рэаліі Даведнік разьвёў нацыянальную й дзяржаўную сымболіку. Тут ёсьць каляровыя малюнкі лукашэнкаўскіх сьцягу й гербу, але ў Энцыкляпэдыю ўжо ўпісана, што Пагоня - "дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь (у 1991-1995)". Ёсьць асобны артыкул "Пагоня". Трэба меркаваць, што гэта стала адною з падставаў нападак на "Беларусь" маргінальнае прэсы.

Увогуле ж, даведнік "Беларусь" - дастаткова збалянсаванае выданьне: паводле эпохаў, імёнаў, прыхільнасьцяў. Рэаліі тут адлюстраваныя, Вы бераце інфармацыю, але вось для яе інтэрпрэтацыі зьвестак у даведніку малавата. Вам трэба ведаць нечага болей. Найменей трэба мець жыцьцёвы досьвед. Менавіта тады "Беларусь" стане даведнікам, які можа ўдакладніць некаторыя факты. Іншая рэч - рэаліі Беларусі такія, што могуць выклікаць ліпкае пачуцьцё нечае прысутнасьці. Вось і ў даведніку "Беларусь" пры праглядзе старонкі 438 на прасьвет на лысіне Антона Луцкевіча ўзьнікае чубчык Аляксандра Лукашэнкі як знак таго, што беларуская гісторыя пакуль ня вырвалася з зачараванага кола.

Яшчэ адно агульнае назіраньне над "Беларусяй": энцыкляпэдыя пра гэтую краіну - пераважна гістарычная энцыкляпэдыя. Сытуацыю ратуюць, скажам так, Лішайнікі, чые каляровыя малюнкі разьбіваюць манатоннасьць гістарычнага наратыву. Ужо меней мастацтва, магчыма, варта было б зьмясьціць болей геаграфічных зьвестак. Што зусім неадэкватна пададзена - эканоміка. Хаця можна зразумець, чым выклікана апошняе: што гэта за эканоміка сёньня ў Беларусі - ня ведае ніхто. Яшчэ адна заўвага - рэдка падаюцца імёны аўтараў артыкулаў.

* * *

Фармулюючы некаторыя мэтадалягічныя заўвагі да Энцыкляпэдычнага даведніка "Беларусь", мы адзначаем, што ў некаторых пазыцыях гэтае выданьне адэкватнае сучасным патрабаваньням да такіх унівэрсальных масываў інфармацыі, якімі зьяўляюцца Энцыкляпэдыі. У вялікай ступені гэта заслуга былога галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская Энцыкляпэдыя" Барыса Сачанкі й выдавецкага калектыву, што склаўся за папярэднія дзесяцігодзьдзі. "Вызначальная роля ў адборы тэрмінаў і пэрсаналіяў, апрацоўцы інфармацыі належала... Барысу Іванавічу Сачанку, які раптоўна памёр незадоўга да падпісаньня гэтага даведніка ў друк" (с. 5). Прычым заўважаецца наступнае - з выданьня ў выданьне праводзілася палітыка нармалізацыі беларускае інфармацыйнае прасторы: уводзіліся новыя, раней забароненыя імёны; вярталіся беларускія словы; напісаньне іншых рабілася больш беларускім...

Цяпер жа выдавецтва "Беларуская Энцыкляпэдыя" асацыюецца ўсё болей са скандаламі: забраны з друкарні макет трэцяга тому "Гістарычнай энцыкляпэдыі" і першы том шматтомнае "Беларускай энцыкляпэдыі"... Як у ранейшыя таталітарныя часы можна было вызначыць паводле кніг, якія зь іх выйшлі ў пэрыяд Адлігі 60-х, а якія зьяўляюцца мёртвымі помнікамі эпохі Сталіна ці Брэжнева, дык так крыху пазьней, магчыма, мы скажам, якія выданьні "Беларускай Энцыкляпэдыі" рыхтавалі Міхась Ткачоў і Барыс Сачанка, а якія - іхныя няўдзячныя спадкаемцы.

*Алег Дзярновіч*

## РЭАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ



*Заяц Ю.А. Заславль в эпоху феодализма. - Менск: Навука і тэхніка, 1995.*

Апошнім часам у беларускім друку рэдка выходзяць грунтоўныя ("важкія") манаграфіі - усё болей брашуры. Таму зьяўленьне кнігі пра Заслаўе стала добраю неспадзяванкай для аматараў айчыннае старасьвеччыны.

Шэраг манаграфіяў пра старажытныя Горадню, Менск, Полацак, Берасьце, Наваградак, Ваўкавыск папоўніўся новым томам. У адрозьненьне ад сваіх папярэднікаў, Ю.Заяц значна пашырыў рамкі дасьледаваньняў, у некаторых выпадках ён заходзіць нават у XIX ст. Манаграфія напісаная археолягам і грунтуецца найперш на археалягічным матэрыяле. Падрабязна апісаныя вырабы, рамёствы, сельскагаспадарчыя заняткі гараджанаў, гандаль. Між іншым, не зразумелая асаблівая ўвага аўтара да абцасных падковак, тады як відэльцы і лыжкі, напрыклад, не апісаныя, і малюнкі іх не пададзены. Вялікі плюс кнігі ў тым, што аўтар апрацаваў увесь матэрыял пра рамесныя заняткі насельнікаў, у тым ліку і матэрыял пісьмовы. Звычайна археолягі пакідаюць гэтую працу гісторыкам. Засмучае мімаходзь згаданая заслаўская друкарня XVI ст.: яна быццам была, але ў кнізе не названыя адпаведныя рамесныя спэцыяльнасьці.

Шмат увагі адведзена Заслаўскаму замку. Сапраўды, гэта вельмі значнае на той час абарончае збудаваньне і каштоўны помнік культуры сёньня. Нечым ён падобны на Нясьвіскі замак - абрысамі, магутнымі землянымі бастыёнамі, урэшце, толькі гэтыя два замкі зь дзясяткаў захаваліся да нашага часу.

Ю.Заяц паспрабаваў раскрыць адну з таямніцаў старажытнага Заслаўя - высьветліць, калі ж быў збудаваны гэты замак. Ініцыятарам будаўніцтва мог быць толькі Я.Я.Глябовіч, буйны магнат, падскарбі, кашталян і ваявода троцкі. Ён стаў адзіным і паўнапраўным уладальнікам гораду толькі ў 1583 годзе, а памёр у 1590-м. Гэтымі гадамі лягічна абмежаваць час будаўніцтва. Археалягічныя раскопкі паказваюць прыкладна на той самы пэрыяд. Такім чынам, Заслаўскі замак амаль адначасовы зь Нясьвіскім, будаўніцтва якога М.К.Радзівіл Сіротка задумаў у 1583 годзе і хутка пасьля пачаў узводзіць. Пры гэтым Нясьвіскі напэўна, усё ж крыху старэйшы замак і паслужыў узорам для Заслаўскага. Радзівіл Сіротка быў шчырым каталіком і мог запрасіць да сябе італьянскіх будаўнікоў, а кальвініст Глябовіч, верагодна, капіяваў ужо Нясьвіскі замак. Ці не таму Заслаўскі замак "менш дасканалы" за Нясьвіскі?

Заслаўскі замак не падобны на Нясьвіскі і на італьянскія ўзоры яшчэ адной асаблівасьцю - на ягонай пляцоўцы стаіць (дарэчы, неяк няпэўна, ня ў цэнтры, але й ня з краю) мураваны будынак - кальвінскі збор. А паводле правілаў італьянскае фартыфікацыі двор павінен быць чысты, пабудовы дапускаліся на краях дзядзінца. Рызыкну даць сваё тлумачэньне гэтага. Глябовіч, бясспрэчны фундатар збору, будаваў яго яшчэ на старым гарадзішчы, у самым цэнтры яго заходняй паловы, а хутка пасьля таго наўкол былі ўзьведзеныя новыя бастыённыя ўмацаваньні. Дарэчы, гэты замак парушыў яшчэ адзін з канонаў італьянскіх узораў - уваход павінен быў быць з вузкага заходняга боку, насупраць гаспадарскага палаца. Заслаўскаму палацу ў кнізе адведзена вельмі мала месца. Шкада, што чытачу нават не растлумачана, на чым грунтуецца заява, што палац існаваў, калі менавіта ён быў збудаваны і калі разбураны.

Многія археалягічныя высновы аўтара маюць агульнагістарычную цікавасьць: прыкладам, тое, што гісторыю матэрыяльнай культуры ня можна драбіць на пэрыяды IX-XIII і XIV-XVIII ст. - паміж імі ёсьць пераемнасьць; тое, што ў пачатку другое паловы XIII ст. Заслаўе было зруйнавана (літоўцы? татары?).

Шмат якія старонкі кнігі ўражваюць стараннасьцю дасьледаваньня. Гэта ўпрыгожвае археалягічныя кнігі. Але аўтар імкнецца выйсьці за межы "археалягічнага" жанру. Месцамі ён робіць шырокія гістарычныя абагульненьні, ставіць адзнакі праваслаўю (станоўчыя), уніяцтву (адмоўныя) і г.д. У пазытывісцкім дасьледаваньні гэта не зусім дарэчы. Выказваньні, што беларусам XVI ст. царкоўнаславянская мова была блізкая і зразумелая, у адрозьненьне ад польскай, павінны грунтавацца на іншым, не археалягічным матэрыяле, гэта тэма асобнага дасьледаваньня.

Увогуле кніга чытаецца, як дэтэктыў, бо аўтар вядзе амаль дэтэктыўны вышук лініі разьвіцьця гораду. У выкладаньні ўжыты (міжволі, здаецца) клясычны прыём адпаведнага жанру. На першай старонцы аўтар прыгадаў нейкае таямнічае летапіснае паданьне пра заснаваньне Заслаўя, а пераказанае яно толькі ў канцы кнігі.

Вялікая ўдача аўтара - рэканструкцыя горадабудаўнічай гісторыі Заслаўя, разьвіцьця ягонае сацыяльнае тапаграфіі. Здаецца, гэта першы горад, для якога мы маем раскладзеныя па стагодзьдзях пляны. Застаецца спадзявацца, што на ўзровень гэтай кнігі выйдуць дасьледаваньні астатніх беларускіх гарадоў эпохі фэадалізму. Шкада ўсё ж, што больш не йснуе таямніцы загадкавага гарадзішча "Замэчак" - Ю.Заяц яе выкрыў. Затое аўтар прапанаваў рэальную гісторыю гарадзішча - тую, што рэканструюецца паводле археалягічных крыніцаў.

*Валеры Пазьнякоў*

Леанід Краўчук:

# Ганаруся, што спрычынены да Гісторыі

***Імя першага Прэзыдэнта незалежнай Украіны Леаніда Краўчука назаўсёды ўпісанае ў гісторыю гэтай краіны. Але зямная слава праходзіць... І вось ужо дзяржавай кіруе іншы чалавек. Чым займае свае дні экс-Прэзыдэнт Украіны, напэўна, цікава ведаць многім. Інтэрвію зь Леанідам Краўчуком мы перадрукоўваем з газэты "Всеукраинские Ведомости".***

**— Леанід Макаравіч, вам воляю лёсу ўдалося пабываць у дзьвюх іпастасях: Прэзыдэнта дзяржавы і экс-Прэзыдэнта. Калі шчыра: якая з гэтых роляў была больш складанаю?**

‑ Быць Прэзыдэнтам, як вы разумееце, значыць быць чалавекам, што абцяжараны вялізнай адказнасьцю. Прычым, у адрозьненьне ад дэпутата парляманту, адказнасьцю пэрсаніфікаванай. Гэта вельмі складана. Хоць, вядома ж, параза на выбарах аптымізму не прыносіць. Але мінае час, і горыч праходзіць. Каб спакойна ставіцца да такіх рэчаў, трэба мець сілу волі. Гэта ж тая самая дэмакратыя, пра якую мы марылі. Народ зрабіў свой выбар. А я зразумеў: з гэтага нельга рабіць трагедыю.

Калі вас цікавіць сёньняшні мой маральны стан, я пачуваюся добра. Я дэпутат Вярхоўнага Савету, прэзыдэнт Фонду падтрымкі мастацтваў, але маё задавальненьне ад уласнае дзейнасьці шмат залежыць ад сытуацыі ва Ўкраіне. А яна вельмі няпростая...

**— Ці выставіце вы сваю кандыдатуру на чарговых прэзыдэнцкіх выбарах?**

‑ Не. Вырашана канчаткова. Але ўплываць на выбары, даваць ацэнку кандыдатам у прэзыдэнты я здолею.

**— Вы былі адным з трох чалавек, якія падпісалі Белавескія пагадненьні і развалілі такім чынам Савецкі Саюз. Вас ніколі ня мучылі сумневы ў слушнасьці зробленага?**

‑ Не. Гэта была апошняя імпэрыя. Яна ня мела будучыні, а таму і ‑ права на існаваньне.

**— Кажуць, хутка будзе арганізаваны Клюб былых прэзыдэнтаў былых рэспублік СССР. Вы ў яго ўступіце?**

‑ А хто, акрамя мяне, яшчэ ёсьць? Я адзін дабраахвотна пайшоў на датэрміновыя выбары. Праўда, існуе яшчэ Муталібаў, былы прэзыдэнт Азэрбайджану. Але яго ўвесь



час шукаюць, каб прыцягнуць да адказнасьці. Кажуць, ён хаваецца недзе ў Расеі. Сумняюся, каб ён у бліжэйшы час уступіў у нейкі клюб...

**— Леанід Макаравіч, а чаму вы ўзначалілі Фонд разьвіцьця мастацтваў, а не, напрыклад, Фонд дапамогі маладым палітыкам? Другое выглядала б больш лягічна.**

‑ Я ўпэўнены, што духоўнасьць чалавеку даецца толькі праз ягонае авалоданьне культурай. Толькі так нараджаецца і нацыянальная ідэя, і нацыянальная сіла духу... Палітыка ж вучыць толькі мэтадам вырашэньня задач. Я бачу, наколькі моцная яшчэ сярод нашых людзей каўбасная тэорыя і прымаю прапанову групы працаўнікоў мастацтваў і палітыкаў стаць прэзыдэнтам Фонду, каб дапамагчы разьвіцьцю нашай культуры.

**— Міхаіл Гарбачоў менавіта палітычнымі лекцыямі зарабляе на жыцьцё. Напэўна, вы сродкаў маеце больш за яго. У якіх банках у вас адкрытыя рахункі? І колькі на іх?**

‑ У банках рахункаў няма. Толькі карбаванцы на ашчаднай кніжцы. Шчыра кажучы, ня памятаю, колькі там цяпер... Думаю, мільёнаў 50 ёсьць.

**— Гэта гучыць непраўдзіва: у былога Прэзыдэнта няма ніякіх зьберажэньняў. Ці такое магчыма?**

‑ А чаму не? Заробак у Прэзыдэнта і ў мой час, і цяпер ‑ ніжэй чым заробак шахцёра. Што, у шахцёра вы знойдзеце шмат зьберажэньняў?

**— Які самы памятны ў вашым жыцьці падарунак?**

‑ Шахматы, якія мне падаравалі ў Індыі. Для мяне яны вельмі каштоўныя. Па-першае, гэта разьба па слановай костцы. А потым, шахматы ‑ мая слабасьць. Для мяне гэта ня проста гульня, нашмат больш, чым проста хобі ці захапленьне. За імі я адпачываю.

**— Гэта адзіная ваша "прадушына"?**

‑ У мяне яшчэ ёсьць сабака. Але я не рызыкну назваць яго проста захапленьнем. Гэта будзе няслушна, таму што Дунай у маім жыцьці грае вялізную ролю. І ў фізычным, і ў маральным пляне. Гэтай усходнеэўрапейскай аўчарцы 26 красавіка споўніцца 5 гадоў. Гэта буйны сабака вагою больш за 80 кг., які адным ударам лапы лёгка зьбівае з ног чалавека. Ён увогуле не падпускае да сябе нікога, акрамя знаёмых. Загрызьці можа проста. Вельмі агрэсыўна настоены.

**— Таму вы зь ім жывяце на лецішчы?**

‑ У гарадзкой кватэры мы практычна не жывем. Апошнія тры гады я нават ні разу там не начаваў. Жыву на лецішчы. У адпаведнасьці з пастановаю Вярхоўнага Савету, янаададзена мне пажыцьцёва. Мой Дунай у Кіеве ніколі ня быў. Думаю, ён бы звар'яцеў, патрапіўшы ў горад. Мой сабака для мяне вельмі шмат значыць. Дзякуючы яму, я прачытаў мноства літаратуры пра жывёлаў. Цяпер нават цяжка ўявіць, што гэты прыгожы сабака вырас з малюсенькага хваравітага шчанючка. Калі ён хварэў, мне даводзілася карміць яго з спрынцоўкі...

**— У вас ёсьць улюбёная страва?**

‑ Так. Варэнікі і мясныя стравы. Мяса я люблю гатаваць сам. Варэнікі робім разам з жонкаю: яна цеста, я ‑ усё астатняе.

**— Алькаголь?**

‑ Гарэлка. Але п'ю мала. Вядома, я магу выпіць і 300 грамаў, і болей, і пайсьці потым дадому сваімі нагамі. Але ведаю: наступны дзень будзе для мяне пеклам. Выпрабаваньне галавы, страўніка, усяго арганізму! Таму п'ю 3-4 чаркі.

**— Як вы ставіцеся да зямное славы?**

‑ Ня думаю, што ёсьць людзі, якія ня любяць славу. Скажу пра сябе. Ня буду сьцьвярджаць, што ўсё ў сваім жыцьці рабіў слушна. Але тое, што ў мяне хапіла мужнасьці й перакананьня падпісаць Белавескія дакументы аб развале імпэрыі, я лічу вартым гонару. Гэта была падзея гістарычнага маштабу! Праз 100 гадоў шмат што забудзецца. Прозьвішчы тых, хто сёньня гучней за ўсіх крычыць, ніхто і не згадае. А вось імёны тых, хто падпісаў Белавескія пагадненьні, ‑ на вякі. Я не кажу, што ўсё абавязкова будзе добра. Могуць ставіць бюсты, могуць іх зносіць, але памятаць будуць заўсёды. І я ганаруся тым, што спрычынены да Гісторыі.

*Сакавік 1996 г.*

ГАСПАДАРКА

# ...і піва таксама

***У трох заходнеэўрапейскіх краінах — Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Гішпаніі — лішак магутнасьцяў на броварах ацэньваецца ў 3 млрд. літраў, што складае 15 працэнтаў усёй эўрапейскай вытворчасьці піва. Разам з тым рынкі піва азіяцкіх і лацінаамэрыканскіх краінаў хутка разьвіваюцца.***

Апошнім часам на сусьветным рынку алькагольных напояў адбываюцца істотныя зьмены. У канкурэнтнае змаганьне за месца на рынку ўключыліся новыя ўдзельнікі, зьмяніліся асартымэнт і рэгіянальная структура вытворчасьці, заўважна павячлічыўся зьнешнегандлёвы зварот, у тым ліку і з краінамі былога Савецкага Саюзу.

## Вытворчасьць і спажываньне піва

Сусьветная вытворчасьць піва складала ў 1994 годзе 123,4 млрд. літраў ў параўнаньні з 116,5 млрд літраў у 1991 годзе. Пры гэтым рэгіянальная структура ў 1994 годзе выглядала наступным чынам (%, у дужках ‑ 1991 год): Амэрыка ‑ 36,1 (37,5), Эўропа ‑ 35,5 (38,3), Азія ‑ 22,4 (17,2), Афрыка ‑ 4,2 (5,0), Акіянія ‑ 1,9 (2,0). На долю 10 найбуйнейшых транснацыянальных кампаніяў прыпадае 1/3 сусьветнага выпуску піва.

Як заўважаюць экспэрты, яшчэ параўнальна нядаўна рынак піва лічыўся лякальным. Да Другое сусьветнае вайны за міжнародную ўвагу жалі толькі адну кампанію ‑ ірляндзкі Гінэс. Пасьля вайны на зьнешні рынак выйшлі галяндзкая Heineken і дацкая Carlsberg. Пазьней да міжнароднага бізнэсу сталі далучацца іншыя броварныя кампаніі.

Сёньня групу транснацыянальных піўных кампаніяў-лідараў узначальваюць амэрыканскія Anheuser-Bush (AB) і Miller Brewing, на долю якіх прыпадае 70% продажу піва на амэрыканскім рынку. У 1994 годзе AB вырабіла больш за 10 млрд. літраў піва, што склала больш за 8% сусьветнага выпуску гэтага напою. Кампанія пашырае сваю дзейнасьць у розных краінах. Найбольш вядомая марка піва кампаніі ‑ Budweiser ‑ прадаецца ў 60-ці краінах. Нягледзячы на тое, што AB пачала актыўна дзейнічаць на сусьветным рынку піва з 1981 году, "крытычную масу" за межамі Амэрыкі яна набрала толькі ў апошні час. Летась замежны продаж піва кампаніі AB узрос да 4,5 млн. бочак, але гэта вельмі малая велічыня ў параўнаньні з аб'ёмам рэалізацыі яе піва на ўнутраным рынку ЗША, роўным 84 млн. бочак. Кампанія мае намер павялічыць продаж піва за мяжой да 40 млн. бочак і давесьці сваю долю на зьнешнім рынку да 20%.

Іншая амэрыканская кампанія Miller Brewing (філія прадпрыемства тытунёвае групы Phillip Morris) нядаўна абвясьціла пра свой намер інвэставаць частку сродкаў у рэканструкцыю буйнога бровару ў Пэкіне. Прадстаўнікі заходнеэўрапейскіх бізнэсовых колаў адзначаюць, аднак, што амэрыканскім фірмам яшчэ не стае досьведу шырокае дзейнасьці на сусьветным рынку. Эўрапейскія Heineken і Carlsberg дзеюць на зьнешнім рынку больш маштабна. Каля 70% продажу піва кампаніі Heineken у 1994 годзе прыпадала на Эўропу (6,5 млрд. даляраў). Яна купіла бровары ў Італіі і Польшчы і павялічыла ўкладаньні ў вытворчасьць піва ў Швэйцарыі й Вугоршчыне. Выдаткі кампаніі на маркетынг піва летась павялічыліся на 16%, а аб'ём продажу ўзрос на 8%.

У Паўночна-Заходняй Эўропе, таксама як і ў Паўночнай Амэрыцы, спажываньне піва практычна не павялічваецца з 70-х гадоў, што стрымвае рост цэнаў на яго. Спыніўся рост спажываньня піва і ў міжземнаморскіх краінах Эўропы. Са словаў аднаго з кіраўнікоў кампаніі Heineken, у трох заходнеэўрапейскіх краінах ‑ Нямеччыне, Вялікабрытаніі і Гішпаніі ‑ не выкарыстоўваецца значная частка вытворчых магутнасьцяў бровараў. Лішак магутнасьцяў на броварах ацэньваецца ў 3 млрд. літраў, што складае 15 працэнтаў усёй эўрапейскай вытворчасьці піва. Разам з тым рынкі піва азіяцкіх і лацінаамэрыканскіх краінаў хутка разьвіваюцца.

У Кітаі, напрыклад, спажываньне піва ўзрастае ў сярэднім на 15% за год. Паводле ёмістасьці кітайскі рынак піва да канца стагодзьдзя можа перагнаць амэрыканскі. Гэта прыцягвае замежных інвэстараў. У апошнія два гады ў Кітаі былі створаныя 30 супольных прадпрыемстваў з удзелам замежных броварных кампаніяў. Heineken засяродзіла ўвагу на пашырэньні свае дзейнасьці ў краінах ціхаакіянскага басэйну і каапэруецца з сынгапурскай фірмай Fraser and Neave, піва якой (маркі Tiger) вельмі папулярнае ў рэгіёне. У замежным продажы піва кампаніяй Heineken доля азіяцкіх краінаў можа падвысіцца з 11% у 1994 годзе да 20% у 2000 годзе.

## Гарэлка — Absolutны лідар продажу

Паводле зьвестак Wall Street Journal Europe, гарэлка належыць да тых тавараў, аб'ёмы продажу якіх узрастаюць найбольш хутка. У 1994 годзе ў лік 15 такіх напояў уваходзілі гарэлкі Finlandia (рост продажу на 28%), Absolut (16%), McCornick (10%) і Gorbatschow (5,6%). Продаж гарэлкі Smirnoff, якая займае лідарскія пазыцыі на рынку гэтага напою і паводле звароту саступае толькі рому Bacardi, летась павялічыліся на 2,4%. Гандаль гарэлкай у 1994 годзе асабліва пашырыўся ў Вялікабрытаніі. Яе продаж у гэтай краіне ўзрос на 8,4% у параўнаньні з папярэднім годам, дасягнуўшы 435,5 млн. даляраў. Гандаль гарэлкай таксама значна павялічыўся ў Швэйцарыі, Даніі, Партугаліі, Гішпаніі і Нямеччыне. Разам з тым яе рэалізацыя крыху зьнізілася ў Італіі, Нідэрляндах і Бэльгіі.

Попыт на гарэлку ўзрастаў ва ўмовах зьніжэньня продажу віскі і рому. Гарэлцы больш за ўсё аддавалі перавагу людзі ва ўзросьце ад 18 да 35 гадоў, тады як віскі куплялі пераважна людзі сталага веку. Спажыўцы, як паказваюць дасьледаваньні, мяркуюць, што гарэлка ‑ больш прывабны напой, чым віскі. Яе можна піць, мяшаючы зь любымі безалькагольнымі напоямі. Адна з галоўных прычынаў росту папулярнасьці гарэлкі ‑ дасканалая рэкляма. Павелічэньню ёмістасьці рынку гэтага алькагольнага напою спрыяе таксама сталае пашырэньне ягонага асартымэнту, у прыватнасьці, выпуск араматызаванай гарэлкі з садавінным і цытрусавым прысмакам, якая пасьпела заваяваць папулярнасьць у спажыўцоў.

*Паводле матэрыялаў друку*



© НАША НІВА Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая Наклад 5000 Нумар падпісаны ў друк 13.03.1996 Надрукавана ў ЗАТ "Lietuvos Rytas" (Вільня, праспэкт Гедыміна, 12а)

